# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

21 ЛЮТАГА 2003 г. № 8/4194 КОШТ 510 РУБ.


АНОНС!

**МЫ — БЕЛАРУСЫ!**

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

*Да 110-годдзя Максіма ГА-РЭЦ-КАГА*

6-7,13



*Зімовы дзень у Наваградку*

Фотарэпартаж

14-15



ФЭСТ

# ЖЫВЫ І ГАРАЧЫ ДЖАЗ, ЯКІ ТРЭБА... ГЛЯДЗЕЦЬ!

*Чаканая музычная імпрэза: "Мінск-2003". Традыцыйны і папулярны (ужо дзевяты!) фестываль беларускага джаза два вечары гасцяваў у сталічным Клубе імя Ф. Дзяржынскага. Два вечары на памежжы студзеня ды лютага было не па-зімоваму: спякотна!*

*НА ЗДЫМКУ: вакалістка групы "Green Stream" Т. ФАРЭДО.*

чытайце на стар. 13



Фота Канстанціна ДРОБАВА



Уладзімір МІХНО

# ХАТА УЛАДЗІМІРА МІХНО

*"Я НЕ ГОСЦЬ-ПРЫХАЖАЙ
У БАЦЬКОЎСКАЕ ХАЦЕ,
ТУТ ПЛАНІДА МАЯ,
ТУТ РАДЗІМА, ТУТ ЛЁС"...*

Пра творчасць празаіка Уладзіміра МІХНО

чытайце на стар. 4-5

## КОЛА ДЗЁН

***Два медалі — залаты і сярэбраны — заваявалі мужчынская і жаночая зборныя нашай краіны па біятлоне 13 лютага на чарговым этапе Кубка свету ў нарвежскім Халменколене. А ў нашай краіне паспяхова прайшла "Мінская лыжня—2003", у якой удзельнічаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.***

*ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

З 25 па 27 лютага будзе праходзіць Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш-2003. Чакаецца, што ў выставе возьмуць удзел каля 300 фірм, якія займаюцца выданнем і распаўсюджваннем кніжнай прадукцыі. Акрамя беларускіх удзельнікаў, будуць прысутнічаць выдавецтвы з Расіі, Украіны і іншых краін. На другі дзень работы кірмашу ў кніжным магазіне "Светач" у Мінску павінен адкрыцца аддзел украінскай кнігі. На жаль, да Мінскай міжнароднай кніжнай выставы-кірмашу выдавецкая галіна нашай краіны прыйшла з паніжанымі ў параўнанні з 2001 годам паказчыкамі. Так, колькасць выдадзенай кніжнай прадукцыі зменшылася на 2,4 працэнта, тыраж — на 19,6 працэнта. Сярэдні тыраж адной кнігі летась быў 5,7 тыс. экземпляраў, у той час як у 2001 годзе — 6,9 тыс., а ў 2000 годзе — 8 тысяч. Зменшылася колькасць кніг, выдадзеных на беларускай мове. У параўнанні з 2001 годам па назвах выдадзена кніг на 8,5 працэнта, а па тыражы на 35 працэнтаў менш. На сённяшні дзень каля 90 працэнтаў кніжнай прадукцыі, якая прысутнічае на нашым рынку, выдадзена ў Расіі.

*ПАСТАНОВА ТЫДНЯ*

Савет Міністраў нашай краіны прыняў пастанову аб узвядзенні ў сталіцы ў гэтым годзе помніка Адаму Міцкевічу. Аўтар гэтай скульптуры — беларускі скульптар Аляксандр Фінскі. Адліўка помніка з бронзы закончыцца ў красавіку. Праект фінансуецца Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

*КЛОПАТ ТЫДНЯ*

На рэстаўрацыю Нясвіжскага палаца Радзівілаў на дабрачынны рахунак паступіла больш як 15 мільёнаў рублёў. У бюджэце закладзена 800 мільёнаў рублёў на праектна-даследчыя работы і 200 мільёнаў — непасрэдна на рэстаўрацыю палаца. Яшчэ 100 мільёнаў выдзелена на капітальны рамонт будынка, у тым ліку на супрацьпажарную ахову.

*ПАРТНЁРСТВА ТЫДНЯ*

Летась удзельная вага еўрапейскіх краін, з якімі гандлюе Рэспубліка Беларусь, у агульным аб'ёме тавараабароту з дзяржавамі далёкага замежжа склала больш за 75 працэнтаў, што ў абсалютным выражэнні дасягнула ўзроўню 4 мільярдаў 860,5 мільёна долараў. Пры гэтым экспарт перавысіў імпарт і склаў 2 мільярды 790 мільёнаў долараў. Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі нашай краіны ў 2002 годзе былі Германія, Вялікабрытанія, Польшча, Нідэрланды, Літва і Латвія.

*СУСТРЭЧА ТЫДНЯ*

Папа Ян Павел II сустрэўся з беларускай канферэнцыяй епіскапаў на чале з кардыналам Казімірам Свёнтакам. Кіраўнік каталіцкай царквы падкрэсліў актуальнасць яднання хрысціян, неабходнасць вядзення дыялога паміж каталікамі і праваслаўнымі на аснове павагі і ўзаемаразумення.

*ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Цэнтральнай падзеяй урачыстага вечара ў Мінску, прысвечанага дзесяцігоддзю ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Туркменістанам, стала прэзентацыя кнігі Сапармурата Ніязава (Туркменбашы) "Рухнама" на беларускай мове. Працавалі над перакладам нашы вядомыя пісьменнікі Анатоль Кудравец, Леанід Дранько-Майсюк і Анатоль Бутэвіч. Раней "Рухнама" ўбачыла свет на англійскай, рускай, турэцкай, арабскай, персідскай і японскай мовах.

*РОСТ ТЫДНЯ*

У нашай краіне па-ранейшаму захоўваецца тэндэнцыя росту банкаўскіх дэпазітаў насельніцтва ў банках. За студзень дэпазіты грамадзян у нацыянальнай валюце ўзраслі на 61622,1 мільёна рублёў (на 9,2 працэнта), а ў замежнай — на 11,4 мільёна долараў (на 2,9 працэнта) і склалі адпаведна 728421,7 мільёна рублёў і 401,8 мільёна долараў.

*ЗАНЯТАСЦЬ ТЫДНЯ*

На 1 лютага гэтага года ў банку дадзеных дзяржаўнай службы занятасці нашай краіны зарэгістравана 24,4 тысячы вакансій. Больш як 78 працэнтаў з іх — па рабочых спецыяльнасцях. За мінулы год патрэбнасць прадпрыемстваў і арганізацый краіны ў кадрах зменшылася на 5,5 тысячы. У выніку колькасць свабодных месц у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года знізілася амаль на 18 працэнтаў. Калі год таму на кожную вакансію прэтэндавалі чацвёра беспрацоўных, то цяпер — шасцёра.


## ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСКА НА II КВАРТАЛ

Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на II квартал 2003 года. На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**


СУСТРЭЧЫ

# З ЖЫЦЦЯ ЗЕМЛЯКОЎ ПЯТРА МАШЭРАВА

У Нацыянальным прэс-цэнтры, размешчаным у будынку канцэртнай залы "Мінск", прайшла прэс-канферэнцыя, падчас якой міністр культуры РБ Л. Гуляка, старшыня Віцебскага аблвыканкама У. Андрэйчанка і намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама П. Южык расказалі аб цяперашнім жыцці Віцебшчыны і планах правядзення Дзён культуры Віцебскай вобласці. На прэс-канферэнцыі прысутнічалі галоўныя рэдактары і карэспандэнты практычна ўсіх буйнейшых рэспубліканскіх газет і часопісаў, супрацоўнікі Беларускага радыё. Сустрэча была прымеркавана да адкрыцця Дзён культуры Віцебшчыны, якое адбылося 14 лютага ў Палацы Рэспублікі. Журналістам паведамілі, што, нягледзячы на шматлікія праблемы, звязаныя з фінансаваннем разнастайных культурных мерапрыемстваў, культурнае жыццё Віцебшчыны будзе і надалей заставацца багатым і цікавым. Сярод надзённых задач развіцця беларускай культуры было названа вырашэнне такіх пытанняў, як будаўніцтва новага памяшкання Нацыянальнай бібліятэкі, рамонт Белдзяржфілармоніі і Вялікага тэатра ў Мінску, рэстаўрацыя замка ў Нясвіжы (нядаўна пашкоджанага пажарам), добраўпарадкаванне бібліятэк і клубаў, прывядзенне ў парадак структуры і сістэмы кіравання культурай, а таксама ліквідацыя праблем у сферы кінапракату. Было заўважана, што культура даўно ўжо ўяўляе самастойную галіну народнай гаспадаркі.

Віцебская вобласць завяршае Дні культуры ўсіх абласцей Беларусі ў сталіцы. У сёлетніх Днях культуры Віцебшчыны задзейнічаны 34 творчыя калектывы і звыш тысячы ўдзельнікаў, сярод якіх — прадстаўнікі ўсіх раёнаў вобласці. Гэта нібы творчая справаздача культурных працаўнікоў розных спецыяльнасцей перад сталіцай і рэспублікай у цэлым. Усяго на Віцебшчыне налічваецца больш за 100 калектываў мастацкай самадзейнасці, у якіх удзельнічаюць звыш 40 тысяч чалавек. З культурных мерапрыемстваў, якія рэгулярна праходзяць у Віцебскай вобласці, вылучаюцца "Славянскі базар" і фестываль імя Салярцінскага, фестывалі — арганнай музыкі ў Полацку, "Браслаўскія зарніцы", "Звіняць цымбалы і гармонік" і, "Дняпроўскія галасы" і інш. Удзельнікі іх прыязджаюць з Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі. На Віцебшчыне існуе мноства культурных устаноў: карцінная галерэя ў сталіцы вобласці, музей У. Караткевіча ў Оршы, гісторыка-краязнаўчы музей у Талачыне, музей-сядзіба І. Рэпіна ў Здраўнёве, музей у Лёзне, музей І. Чэрскага ў в. Валынцы Верхнядзвінскага раёна і інш. Музеі П. Машэрава створаны ў Віцебскім універсітэце, у в. Машканы, дзе нарадзіўся будучы дзяржаўны дзеяч, у Расонах, а яго бюст устаноўлены ў Віцебску. Цікава, што на Віцебшчыне арганізавана нават аб'яднанне аматараў мясцовай кухні. Дык квітней жа, культура Віцебскай вобласці!

**С. Я.**

ВЫСТАВЫ

# «РАСПЯТАЕ КОСАВА»

17 лютага ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце адкрылася выстаўка фатаграфій і дакументальных матэрыялаў "Распятае Косава". Экспазіцыя была наладжана ў рамках VII Мінскага міжнароднага фестывалю праваслаўных песняспеваў. Прывезлі яе ўдзельнікі названага мерапрыемства, сербы Косава і Метохіі, на чале з епіскапам Рашска-Прызранскім Арцеміем.



Экспанаты расказваюць пра жахі і пакуты, якія даводзіцца зносіць косаўцам на працягу гадоў, у тым ліку і цяпер, пад прыкрыццём так званых міратворцаў, з маўклівай згоды якіх албанцы ўжо амаль цалкам выцеснілі сербскае насельніцтва, папалілі ці пазаймалі іхнія дамы, паруйнавалі магілкі і толькі за апошнія два гады разбурылі паўтары сотні праваслаўных цэркваў...

На святой зямлі Косава — а там, на прасторы дыяметрам у 100 кіламетраў, знаходзіцца больш за тысячу значнейшых святынь (манастыроў, дзейных храмаў, сакральных помнікаў і руін іх) — кроў, попел, гвалт.

Галашэнні косаўцаў уздымаюцца да неба. А на зямлі іх быццам і не чуе ніхто, так лічыць паэт-бежанец Ранка Джынавіч, які прыняў удзел у адкрыцці выстаўкі.

Мне цяжка пагадзіцца з такой высновай, таму думаю: можа, убачыўшы такія жахлівыя дакументы і ўсвядоміўшы рэальнасць пераўладкавання свету, усе беларусы пачуюць-такі *галашэнне распятага Косава*.

Вельмі хочацца ў гэта верыць.

**Іван ЧАРОТА**

*Фота К. ДРОБАВА.*

МЕРКАВАННЕ

# ДЗЕ СТАЯЦЬ ПОМНІКУ СКАРЫНЕ?

У "ЛіМе" нядаўна былі змешчаны адказы міністра культуры Леаніда Гулякі на пытанні чытачоў. Было пытанне наконт помнікаў Францішку Скарыне і Адаму Міцкевічу.

Міністр адказаў, што помнік Скарыне будзе ўстаноўлены перад будынкам Нацыянальнай бібліятэкі. На гэты конт, відаць, можна меркаваць па-рознаму. Што тычыцца, напрыклад, мяне, то думка такая. Бібліятэка яшчэ толькі пачынае будавацца, ды і ў раёне станцыі метро "Усход", на ўскраіне горада, непадалёку ад могілак... Мабыць, трэба ўлічыць усё гэта. Мне здаецца, што мы зробім архітэктурную памылку, адносячы помнік Скарыне на ўскраіну горада, у параўнальна бязлюднае месца.

Напэўна помнік Скарыне трэба паставіць ля Нацыянальнай акадэміі навук, як гэта меркавалася раней. Там ёсць вельмі прыдатнае месца — гэта клумба ля самага праспекта, дзе цяпер стаіць гадзіннік. Гэта, можна сказаць, другі цэнтр горада (па сённяшніх мерках), люднае месца — мора студэнтаў: побач Політэхнічная акадэмія, інтэрнат медыкаў, трохі далей — Акадэмія мастацтваў, побач — акадэмгарадок, бальнічны комплекс. Праз вуліцу — кінатэатр "Октябрь", толькі яго трэба зрабіць беларускім і назваць, можа, неяк "беларускі бусел" ці яшчэ як.

Думаецца, лепшага месца для помніка Францішку Скарыне ў сталіцы Беларусі няма і наўрад ці будзе.

А каля новай бібліятэкі можна паставіць скульптурную групу па вялікім выбары — і ўсё з ганаровых і знакамітых беларусаў: Уладзіміра Ігнатоўскага і Цішкі Гартнага, Кузьмы Чорнага і Івана Мележа, Пімена Панчанкі і Уладзіміра Караткевіча...

Сапраўды, ёсць у нас шмат слаўных постацей, якія заслужылі таго, каб іх помнікі стаялі ў беларускай сталіцы, каб наш народ не толькі пра іх чуў, але і бачыў, увасобленых у бронзе і мармуры.

Думаю, што мае меркаванні падтрымаюць многія, каму неабыякавы лёс нашай культуры. Хто хоча бачыць сваю сталіцу сучасным культурным і прыгожым горадам. Беларускім горадам!

Урэшце, можна і паспрачацца, гэта будзе толькі на карысць справе.

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ**

# СУСТРЭЧА З БЕЛАРУСКІМ ІКАРАМ

Беларускім Ікарам назваў нашага Максіма Багдановіча вядомы сучасны ўкраінскі пісьменнік, даўні сябра беларускай літаратуры Раман Лубкіўскі. Памятаеце, як у аўтара "Вянка"?

*Калісь глядзеў на сонца я,*
*Мне сонца асляпіла вочы.*
*Ды што мне цемень*
*чорнай ночы!*
*Калісь глядзеў на сонца я...*

Вось так імкнуўся да сонца — сонца праўды, чалавечнасці, любові і Багдановіч. І — згарэў у свае дваццаць пяць з паловаю гадоў, пакінуўшы сваім нашчадкам узор рашучасці, нязломнасці, веры.

А перыфразу "беларускі Ікар" ужыў Лубкіўскі ў назве ўступнага артыкула да выдадзенага ў самым канцы 2000 г. у львоўскім выдавецтве "Світ" вялікага (ажно на 30 аркушаў) тома твораў Багдановіча "Страцім-лебедзь". Кніга гэта *чакалася даўно*. І, трэба адразу сказаць, чаканне цалкам апраўдалася.

Прыемна ўражвае ўжо сам уступны артыкул да кнігі — сваёй кваліфікаванай грунтоўнасцю, прадыктаванай не толькі глыбокім веданнем жыцця і творчасці Багдановіча, але і шчырай любоўю да яго, можна сказаць, адданасцю яму. Так пісалі пра нашага Максіма з украінцаў, бадай, толькі Міхайла Драй-Хмара (у 20-я гг.) і львоўскі прафесар Іван Дзенісюк (у канцы 60-х гг.). Гэтая любоў кіравала Лубкіўскім і тады, калі ён укладаў зборнік, пісаў разгорнуты каментар да твораў, сам нястомна і шмат перакладаў Багдановіча, натхняў іншых на такія пераклады. Сёння мы можам без перабольшання казаць пра "Багдановіча Лубкіўскага", так, як слушна кажуць пра "Багдановіча Драй-Хмары"...

Дык які ж ён, Багдановіч Лубкіўскага?

Адразу ж кідаецца ў вочы шырыня ахопу творчасці беларускага песняра. Дагэтуль нідзе ў свеце (а толькі асобныя выданні пісьменніка, апрача Украіны, выходзілі ў Расіі, Польшчы, Англіі, Балгарыі) творчасць беларускага песняра не была паказана так поўна, як у "Страцім-лебедзі". Калісьці ўкладзены і перакладзены Драй-Хмарам багдановічаўскі "Вянок" (Кіеў, 1929) налічваў усяго некалькі дзесяткаў вершаў. "Лірыка", што выйшла ў славутай серыі "Жамчужыны сусветнай лірыкі" (Кіеў, 1967), змяшчала ўжо 117 паэтычных твораў. Цяпер жа ўкраінскі чытач зможа пазнаёміцца на роднай мове амаль з усім Багдановічам — яго паэзіяй (уключаючы нават чарнавыя накіды), а таксама (упершыню!) прозай, літаратурнай крытыкай, тэорыяй і гісторыяй літаратуры, публіцыстыкай, эпісталярнай спадчынай. У прыватнасці, упершыню (за нязначным выключэннем) публікуюцца на Украіне ўкраіназнаўчыя працы пісьменніка ("Краса і сіла: Спроба даследавання верша Т.Р.Шаўчэнкі", "В.Самійленка", "Грыцько Чупрынка", "Украінскае казацтва", "Вобразы Галіччыны ва ўкраінскай літаратуры" і інш.). Угрунтаваны на беларускім Поўным зборы твораў Багдановіча ў 3-х т. (Мінск, 1992 — 1995), "Страцім-лебедзь", па сутнасці, з'яўляецца Поўным зборам твораў пісьменніка на ўкраінскай мове, у які толькі не ўвайшлі — не маглі ўвайсці — пераклады песняра. Таму зусім слушна гучыць падзагаловак выдання: Збор твораў. Таму зусім заканамерна гэтым выданнем твораў Багдановіча распачалася новая ўкраінская выдавецкая серыя "Ad fontes" ("Да крыніц"). Спадчына Багдановіча — адна з неўміручых, самабытных, магутных, гаючых крыніц, ад якой сёння могуць набрацца моцы не толькі беларускі чытач і беларуская літаратура...

Зразумела, "падняць" глыбу творчай спадчыны беларускага класіка адзін Лубкіўскі не змог бы (хоць у "Страцім-лебедзі" яму належыць абсалютная большасць узнаўленняў). У гэтым яму дапамагалі многія — ад колішніх выдатных паэтаў-перакладчыкаў (М.Драй-Хмара, Д.Паламарчук, Р.Кочур, Яр-Славутыч, У.Лучук, А.Сенатовіч і інш.) да сённяшніх вядомых практыкаў перакладу і літаратуразнаўцаў (Д.Паўлычка, І.Калынец, І.Гнацюк, В.Чабаненка, Т.Кабржыцкая і інш.). Якасць перакладаў — тэма асобная. Скажу толькі, што так дасканала Багдановіч паўкраінску яшчэ не гучаў. Раман Лубкіўскі адабраў для кнігі лепшыя з існуючых перакладаў, у шэрагу выпадкаў паправіў свае ранейшыя пераклады, рупна — як рэдактар — вычытаў пераклады сваіх сучаснікаў. І тыя некалькі выдавецкіх (карэктарскіх) недагляду, што неяк закраліся ў кнігу, не псуюць агульнага вялікага ўражання ад яе.

Добрыя словы варта сказаць і пра кнігу як твор друкарскага мастацтва, яе дызайн, мастацкае афармленне (мастак Б.Пікуліцкі). Выданне багата ілюстравана дакументальнымі здымкамі і аўтографамі пісьменніка.

Застаецца дадаць, што аматары творчасці Багдановіча змогуць убачыць (і набыць) "Страцім-лебедзя" на міжнародным кніжным кірмашы, што пройдзе на наступным тыдні, 25-27 лютага, у Выставачным комплексе "Купалаўскі", а таксама 26 лютага на прэзентацыі кнігі ў Дзяржаўным літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

**Вячаслаў РАГОЙША**



У цёплай і ўрачыстай атмасферы прайшла ў Доме дружбы вечарына, прысвечаная 125-годдзю вызвалення Балгарыі ад Асманскага ярма, падчас якой пра драматычную гісторыю братняга славянскага народа, гістарычныя сувязі нашых краін, блізкіх па сваіх каранях, духу і традыцыях гаварыў Часовы Паверэны ў справах Балгарыі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Эміл Самарджыеў. Перад прысутнымі выступілі таксама пісьменніца Вольга Іпатава, паэтэса Аксана Данільчык, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова, выкладчык БДУ Красімір Іванаў. У выкананні студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ прагучалі вершы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Я. Янішчыц у перакладзе на балгарскую мову, а таксама вершы П. Мацева, С. Паптонева, Н. Вылчава на беларускай мове. У выкананні дыпламанта рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў Аляксандра Аўраменкі прагучалі творы М. Агінскага і С. Манюшкі.

**М. Р.**



# САКРЭТЫ МАЙСТЭРСТВА

13 лютага ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (Багдановіча, 13) адкрылася выстава, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. У экспазіцыі прадстаўлены асабістыя рэчы пісьменніка, а таксама фотаздымкі яго сям'і і радні. Адбылася прэзентацыя кнігі літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук Тэрэзы Голуб "У творчай майстэрні класіка". Тыя, хто прыйшоў на імпрэзу, падзяліліся сваімі ўражаннямі ад выставы і прачытанай манаграфіі, якая толькі што пабачыла свет. Дырэктар музея Л. Макарэвіч дала слова прысутным на вечарыне даследчыкам і прыхільнікам творчасці М. Гарэцкага: народнаму пісьменніку Я. Брылю, народнаму паэту Н. Гілевічу, дырэктару Інстытута літаратуры, члену-карэспандэнту НАН Беларусі У. Гніламёдаву, члену-карэспандэнту НАН РБ М. Мушынскаму, тэкстолагу з НАН Беларусі Э. Золавай, пісьменніку А. Бутэвічу, вядомым і кваліфікаваным даследчыкам В. Скалабану і І. Саверчанку, літаратуразнаўцы Т. Грамадчанцы, пляменніку пісьменніка акадэміку Р. Гарэцкаму і інш. Была адзначана важнасць толькі што выдадзенай навуковай працы для папулярызацыі творчай спадчыны М. Гарэцкага. Тэксталогія як самастойная галіна ведаў неабходная пры вывучэнні творчасці любога пісьменніка. Зазірнуць у лабараторыю, дзе нараджаюцца новыя творы, не так і проста, гэта ўдаецца не кожнаму. У Т. Голуб атрымалася прасачыць і паказаць працэс і метадалогію напісання твораў М. Гарэцкім. Прысутнічалі на вечарыне намеснік міністра культуры Беларусі В. Гедройц, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Г. Запартыка, літаратуразнаўца М. Яфімава, паэтэса Л. Сільнова, супрацоўнікі аддзела тэксталогіі Інстытута літаратуры НАН Беларусі, выкладчыкі розных навучальных устаноў і інш. Усе цёпла віншавалі Т. Голуб з сапраўднай навуковай і творчай удачай, дзякавалі ёй за магчымасць прыадчыніць заслону таямнічасці вакол асобы класіка. Вечарына прайшла ў прыязнай сяброўскай атмасферы. У музеі можна было набыць манаграфію Т. Голуб, зборнік замоў, складзены Н. Гілевічам, і кнігу лірыкі Л. Дранько-Майсюка "Места і снег".

**С.**



# ПРЫНЯТЫЯ Ў САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

ГОВАР Генадзь Васільевіч. Паэт. Піша па-беларуску. Нарадзіўся 23.03.1945г. у Жлобіне. Закончыў Мінскае мастацкае вучылішча і Каўнаскі тэхнікум прыкладнога мастацтва. Працуе мастаком-афарміцелем на камбінаце "Мастацтва БСМ" у Гомелі.

Аўтар паэтычных зборнікаў: "Мае абпаленыя крылы", 1998 г., "Ты, Мазыр — мой Парнас", 2001 г., "Князь-возера", 2002 г.

Рэкамендавалі для ўступлення ў СБП: Гомельскае аддзяленне СБП, Міхась Башлакоў, Таіса Мельчанка, Юрый Фатнеў.

КЕБІЧ Людміла Антонаўна. Паэт. Піша па-беларуску. Нарадзілася 17.071951 г. у п. Краснапольскі на Гродзеншчыне. Закончыла Маладзечанскае музвучылішча і Гродзенскі дзяржаўны універсітэт. Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў.

Аўтар паэтычных зборнікаў: "Па музычных законах", 1996 г., "Зялёная рутвіца", 2001 г.

Рэкамендавалі для ўступлення ў СБП: Гродзенскае аддзяленне СБП, Данута Бічэль, Аляксей Пяткевіч, Міхась Скобла.

КОТАВА Алена Адамаўна. Паэт. Піша па-беларуску. Нарадзілася 14.11.1952 г. у в. Крупец на Гомельшчыне. Закончыла Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя В. І. Мухінай. Працуе выкладчыкам аддзялення "Дызайн" у Мінскім дзяржаўным архітэктурна-будаўнічым каледжы.

Аўтар паэтычнага зборніка"Варажба травы", 2001 г.

Рэкамендавалі для ўступлення ў СБП: Алесь Камароўскі, Віктар Гардзей, Васіль Макарэвіч.

САЛАЎЁВА (БОХАН) Вікторыя Віктараўна. Паэт. Перакладчык. Піша па-беларуску і па-руску. Нарадзілася 17.10. 1972 г. у Мінску. Закончыла БДПУ імя М. Танка. Працуе палітычным аглядальнікам у інфармацыйным агенцтве "Інтэрфакс".

Аўтар паэтычнага зборніка: "Сонные небеса", 2001 г.

Рэкамендавалі для ўступлення ў СБП: Рыгор Барадулін, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Пашкевіч.

СІВЕЦ Таццяна Міхайлаўна. Паэт. Піша-беларуску. Нарадзілася 23.06. 1982 г. у Мінску. Студэнтка 3 курса БДПУ імя М. Танка.

Аўтар паэтычнага зборніка: "Праляцець па вясёлцы", 2002 г.

Рэкамендавалі для ўступлення ў СБП: Ала Канапелька, Віктар Гардзей, Вольга Куртаніч.

ХАДАНОВІЧ Андрэй Валер'евіч. Паэт. Перакладчык. Піша па-беларуску. Перакладае з французскай, польскай і ўкраінскай моў. Нарадзіўся 13.02.1973 г. у Мінску. Закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працуе выкладчыкам замежнай літаратуры ў БДУ.

Аўтар паэтычнага зборніка: "Листы з-під ковдры" (у перакладзе на ўкраінскую мову), 2002 г. і шматлікіх публікацый у часопісах "Першацвет", "Крыніца", "ARCHE".

Рэкамендавалі для ўступлення ў СБП: Уладзімір Арлоў, Леанід Дранько-Майсюк, Міхась Скобла.



# УЗНАГАРОДЫ МУЗЫКАНТАМ

Ёсць сярод педагогаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі яркія асобы, у якіх спалучаюцца вартасці Настаўніка, Творцы, Артыста. Днямі двое з іх адзначаны Прэзідэнтам Беларусі — ганараваны высокімі ўзнагародамі краіны. Народны артыст, у свой час вядомы оперны саліст, а сёння прафесар вакалу Анатоль Генералаў узнагароджаны ордэнам Пашаны. Дацэнт Ніна Аўраменка, стваральніца і мастацкі кіраўнік унікальнага ансамбля флейтыстаў "Сірынкс", ганаравана медалём "За працоўныя заслугі".

**С. Б.**

## НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

**У літаратурных праектах Першага Нацыянальнага канала адбыліся невялікія змены. У суботу працягваецца час "Літаратурнага праспекта" да 20 хвілін, яго весці будзе паэт Алесь Бадак, а ў творчую групу пад кіраўніцтвам галоўнага рэдактара Навума Гальпяровіча, увойдуць таксама журналісты Маргарыта Прохар, Вольга Сямашка, Таццяна Міхновіч.**

**Таццяна Міхновіч стане кіраўніком творчай групы і вядучым "Кніжнага кіёска", які раскажа пра навінкі айчынных і замежных выдавецтваў. Гучаць "Кніжны кіёск" будзе ў нядзелю ў блоку "Радыёпарк", які пачынаецца ў 16 гадзін.**

**Астатнія праграмы пра літаратуру на Першым Нацыянальным канале засталіся без змен, і час іх выхаду ранейшы.**

**КАНАЛ "КУЛЬТУРА"**

**"КЛУБ ДАМАСЕДАЎ". Панядзелак—аўторак, у 11.00 чытаем разам старонкі рамана У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", у гэты ж час у сераду — праграма М. Прохар "Хронограф", у чацвер — "Натхненне" В. Макарэвіча.**

**"ЛІТАРАТУРНЫ АЎТОРАК" у "Сімфоніі дня" 25 лютага прапануе ўвазе сваіх слухачоў: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 14.10 "Магія творчасці" З. Каваленкі, падрыхтавана з прэзентацыі кнігі М. Шыманскага "Кітай з адкрытым сэрцам". У 14.40 — "Сугалоссе" У. Дзюбы, гаворка пойдзе пра апавяданне венгерскага пісьменніка Дзюлы Крудзя "Мушкецёр" (пераклад на беларускую мову М. Ермалаева). З 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у 15.30 у "Паэтычным радыётэатры" слухайце другую частку музычнага спектакля паводле паэмы Я. Коласа "Сымон-музыка". І завершыць "Літаратурны аўторак" праграма Г. Шаблінскай "Гаспода", пачатак у 16.10. Госць студыі — член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук прафесар М. Мушынскі. Выпуск да 110-годдзя М. Гарэцкага. (Паўтор у суботу, у 10.10.)**

**Н. К.**

АБСЯГІ

## ГІМН РОДНАМУ КРАЮ

**Мастакі Гомельшчыны ўносяць значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры Беларусі. Яе майстры пэндзля і разца паспяхова выступаюць на розных выставах. Цяпер у карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў яны адкрылі сваю новую экспазіцыю пад назвай "З верай, надзеяй, любоў'ю...". Пралогам да яе можна аднесці карціну "Над родным Палессем" С. Наздрын-Платніцкай. Большасць твораў на выставе паказваюць высокі прафесіяналізм іх аўтараў, гучаць гімнам роднаму краю. Гэта работы М. Казакевіча, Р. Ландарскага, П. Фея, А. Отчыка, С. Курашавай, М. Ягоравай, І. Хайкова.**

## АД ГЛЫБІНЬ ПАЛЕССЯ

**Гомельскі жывапісец Мікалай Кулеш нарадзіўся ў глыбінцы Палесся — на Тураўшчыне. Ён сябра Беларускага саюза мастакоў, выкладае ў Гомельскім мастацкім вучылішчы. Вырас сярод маляўнічай прыроды і на ўсе гады захаваў любоў да яе. Трыццаць гадоў працуе творча. Вядомыя яго карціны "Палескі край", "Пасад", "Касавіца", "Стагі на лузе", "Вёска. Азяраны", "Восень". Мікалай Кулеш удзельнік шматлікіх выстаў — абласных, рэспубліканскіх, замежных. Зараз у абласным цэнтры народнай творчасці ён наладзіў персанальную выставу сваіх работ, у якую ўвашлі лепшыя яго творы.**

**А. ШНЫПАРКОЎ**

ЗАПАТРАБАВАНА ЧАСАМ

# ХАТА УЛАДЗІМІРА МІХНО

***Празаік і публіцыст Уладзімір Міхно жыве ў вёсцы Чэрцы Лепельскага раёна. Праз год яму будзе 40. Па адукацыі журналіст. Свой хлеб зарабляе ў суседняй раёнцы, дзе мае паўстаўкі. (Дабіраецца на працу на веласіпедзе, пешшу ці спадарожнымі: увесь шлях больш за 20 кіламетраў). З літаратуры, як і ўсе беларускія пісьменнікі, не жыве. Ды і не мог бы з яе жыць, нават калі б у яго штогод выходзіла па дзесяць кніжак.***



Гэта інфармацыя для тых чытачоў, хто не знаёмы з літаратурнай працай, хто не ведае, што ў пісьменнікаў і як... Для такіх людзей, мабыць, дзіўна, што пісьменнік жыве ў глыбінцы. Таксама, мусіць, незразумела, чаму літаратар не можа забяспечыць сябе матэрыяльна за кошт твораў: лічылася ж, ды і лічыцца, што творчыя людзі "грошы грабуць лапатай". Не, гэта не так... Мы ж, Валодзевы калегі, сталічныя жыхары, ведаем: у вёсках, райцэнтрах, гарадках (абласныя цэнтры пакуль у разлік браць не будзем, там творцу лягчэй — больш магчымасці падзарабіць) нашых таварышаў сёння нямала. Калі не трэцяя, не чацвёртая частка сяброў пісьменніцкага саюза, дык пятая дакладна. Празаікі, паэты, драматургі, людзі рознага ўзросту, рознага жыццёвага і творчага вопыту, жывуць там цяжкавата, а то і зусім цяжка. Не кожны і там мае сваё жытло, працу, якая забяспечвала б быт. Не кожнаму дапамагаюць мясцовыя ўлады (ведаем, некаму нават дроў не выпісваюць, каня не даюць соткі засеяць), але тым не менш, кожны застаецца верны свайму пісьменніцкаму прызначэнню — піша.

Але, гадоў трыццаць таму, пісьменнікаў, сталых вясковых жыхароў, было адзінкі. У асноўным жа іх колькасць пачала папаўняцца за кошт літаратурна здольных хлопцаў і дзяўчат, выпускнікоў ВНУ, накіраваных пасля вучобы на працу ў вёску.

Тыя, хто такім чынам трапіў у вёску, звычайна праз нейкі час спрабавалі ўладкавацца дзе бліжэй да "цывілізацыі": у райцэнтрах, абласных гарадах, калі не ў сталіцы. Хаця нямала хто абзаводзіўся сям'ёй, абжываўся на новым месцы. Кажуць, што амаль усе такія — самі вяскоўцы з іншых рэгіёнаў рэспублікі. Вядома, звычайны клопат вясковага жыхара забірае шмат часу; паспрабуй выкраіць яго для творчасці. Таму не дзіўна, што нашы сельскія калегі друкаваліся і друкуюцца значна радзей, чым мы, сталічныя літаратары. Ды і кнігі іх ляжалі ў выдавецтвах, скажам, не год-два, як у некаторых іх надта ж ужо прабіўных мінскіх равеснікаў, а ўсё 5-6, а то і больш.

Не думаю, што ў сваіх рэдкіх выхадах праз кнігі да чытачоў найперш віна саміх аўтараў з глыбінкі. Думаю аб іншым: вось ужо сапраўды кажуць, што правінцыя — лёс. (Уладзімір Міхно сказаў, можа, смялей за астатніх.) А, можа, правінцыя для пісьменніка — таўро. Хаця цяжка сказаць, якое. Бо для некага яно са знакам мінус, а для каго наадварот, з "плюсам".

І няма нічога дзіўнага, што, як заўважана, тыя "прабіўныя" звысака паглядаюць на калегу з правінцыі: не, не тое... І не дзіўна, што ніхто ніколі з пісьменнікаў з глыбінкі не значыўся ў вялікіх дэпутатах, не сядзеў у першых радах прэзідыумаў нашых з'ездаў (калі і сядзеў), не верхаводзіў на радах, не быў у рэдкалегіях, не атрымліваў ганаровыя званні і г.д. Але асабіста я не чуў, каб хто з іх на гэта скардзіўся. Не задавальняе ж, і справядліва, іх адно — чаму нас рэдка друкуюць...

Я знарок, пачаўшы свой расказ пра пісьменніка з вёскі Уладзіміра Міхно, так падрабязна спыніўся на ўсім гэтым: Валодзі, таксама датычыць. Ён мой малодшы таварыш (цудоўнае, яшчэ біблейскае слова!). Мяне турбуе яго чалавечы і пісьменніцкі лёс. Калі я пра гэта яму казаў, ён адмахваўся: "Бяды той". Мне ж здаецца, што бяда ёсць. Мяркуйце самі.

Майму малодшаму таварышу, якога не толькі я лічу сапраўды таленавітым і своеасаблівым пісьменнікам, праз год будзе 40. Друкавацца, можна сказаць, пачаў рана. Але да гэтага часу выдаў усяго дзве кнігі прозы — "Горкі зефір" у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" і "Азартныя гульні" ў "Мастацкай літаратуры". Мог бы, ведаю, выдаць пару добрых кніг публіцыстыкі,а таксама некалькі кніжак прозы.

Першая кніга разышлася па падпісцы, праз кіёскі "Саюздруку". Тыраж другой амаль увесь аўтар забраў у свой раён — дамогся заказу, каб выйшла. У сталіцы, я пытаўся, мала хто з калег яго ведае. Не чыталі. Хаця, калі ўжо шчыра, дык складваецца ўражанне, што мы сёння наогул мала чытаем адзін аднаго. І класікаў нашых, у тым ліку і дзеючых, таксама. Кажу не галаслоўна. Зыходжу з аднаго анкетавання. Яно выявіла — па той частцы апрошаных пісьменнікаў (найбольш маладых) — калі і чытаем калег, дык найчасцей са свайго акружэння. Здаецца, найперш для таго, каб пры нагодзе пахваліць у друку яго, бо ён у сваю чаргу пахваліць мяне...

Думаю, каб Валодзя, жывучы ў Чэрцах, выдаў 10—20 кніг, для крытыкі, некаторых калег у сталіцы гэта не мела б асаблівага значэння. Так што, паспрабуем зразумець яго: "бяды той", як разумее гэта ён сам...

Валодзю, ведаю, зараз важна іншае: каб, нягледзячы ні на што, працавалася, хаця для яго, здаецца, няма таго пытання, якое нямала хто з нас задае сабе: "Што рабіць?", у той сітуацыі, якая сёння склалася з пісьменнікамі. У яго ўжо даўно на гэты конт сфармуляваны адказ: "пісаць, спадары-таварышы. Пісаць і яшчэ раз пісаць. Для вечнасці ці для сябе, для тоўстай кніжкі ці проста ў стол — якая розніца". Маўляў, "на тое ж і майстры прыгожага пісьменства".

Разумею: не проста сказаў. Сказаў у той час, калі шмат непрыстойнага робіцца ў нас. Калі, напрыклад, не выклікае сумнення выраз аднаго нашага слыннага паэта, які сказаў мне ў гутарцы пра нас пісьменнікаў: "Паступова і мэтанакіравана з літаратурнага асяродка вымываецца сумленне, калі замест гэтага многія вартыя паняцці падмяняюцца хлуснёй". І далей: "Але трэба пісаць".

Валодзя, здаецца, сказаў тое ж. Хацеў пры гэтым прыхаваць душэўны боль, бездапаможнасць, ды не змог. І самаіронія добра прыкметная ў словах яго: "майстры" (і я такі ж). А я падумаў: і Валодзя, і слынны паэт маюць рацыю. Вось яно: іншы раз не разумееш, чаму мы, пісьменнікі, быццам стараючыся дагадзіць нейкаму чужаку, так бяздумна пляжым тую справу, якой служым? Чаму ўсё гучней і смялей у сваіх артыкулах, выступленнях заяўляем, што нібыта не было, тым больш няма беларускай літаратуры? Мала, што самі сябе зневажаем, а тут яшчэ, адчуўшы гэта, аднекуль узялася цэлая армія калялітаратурнай "братии", якая наогул здзекліва піша пра пісьменнікаў.

Вядома, можна суцешыцца тым, што літаратуры ад гэтага "не убавится не прибавится". "Але як прымірыцца з хлуснёй? — пытае Валодзя. — Як прымірыцца з тым, што такія "крытыкі" пастаянна даводзяць людзям, нібыта ўсё, што стварылі папярэднікі — марна, і марна, як творцы, існуюць наступныя пакаленні пісьменнікаў? Тым больш "правінцыялы".

"Не ўдзельнічаць у хлусні?" – пытае ён. Што яму адказаць? Адно магу канстатаваць: сёння, нямала хто з пісьменнікаў, наслухаўшыся хлусні, сам абылганы і прыніжаны асобнымі дужа "выбітнымі" таварышамі па пяры, палічыў за лепшае не ўдзельнічаць "в сраме жизни". Нямала хто з нас адышоў ад усяго "калектыўнага", замкнуўся ў сабе, каб далей годна ствараць свой свет быцця, дзе свабодна ад пошасці. Сярод такіх і Валодзя.

Гаварылі мы з ім пра гэта пасля таго, як ён выпісаўся з мінскай бальніцы, дзе падлечваў збалелае сэрца, дзе нагледзеўся людскога гора, пакут, дзе яму спачувалі і ён спачуваў, дзе займеў новых сяброў сярод простага люду, добрага і спагадлівага. А потым Валодзя спытаў у мяне: "А "Хату" маю прачыталі?" "Прачытаў. Яе друкуе "Полымя" ў першым нумары. "Ён узрадаваўся. Тады я ў сваю чаргу спытаў, ведаючы, як няпроста жывецца яму ў Чэрцах: "Можа, усё-такі наважышся на Мінск? Занятак табе пашукаем". Валодзя памаўчаў з хвіліну, потым: "Няўжо вы не зразумелі з "Хаты", што — не?" "Чаму ж, зразумеў. Але, як змірыцца, час праходзіць? Ты сапраўдны празаік, пісьменнік з багатым жыццёвым вопытам, і баюся, што ў вёсцы, адарваны ад выдавецтваў, рэдакцый так і не зможаш як след рэалізаваць сябе. Колькі хлопцаў і дзяўчат менавіта з-за таго, што там, дзе ты, як растварыліся! А якія надзеі яны падавалі!"

Усміхнуўся. А я зразумеў, што дараваў мне: табе нас, вяскоўцаў, зразумець цяжка. І, каб неяк даказаць Валодзю, што помню з прыпавесці яго асабістую "ўстаноўку" на ўсё жыццё, нагадаў яму фінал "Хаты". "Каб душу не астудзіць на жыццёвых скразняках, каб мець на Зямлі апору, а на небе — блаславенне, каб не ўмерці немчуром, забыўшыся на матчыну мову, пільнуйцеся сваіх хат!"

Няхай і пад уплывам класіка — "каб не ўмёрлі" — але як дакладна і надзённа! Праз душу прапушчана. Бо ведаю,

да такой "фармулёўкі" Валодзя прыйшоў не проста — узяў і напісаў. Выпакутаваў.

Паехаў мой малодшы таварыш у вёску ў сваю хату. У свой свет, чалавечы і творчы. Калі проста чалавечы, дык Валодзя яго ўжо даўно выбудаваў сярод людзей. І хто скажа, шкадаваць яго ці не, што не ў сталіцы жыве? Можа, толькі паспачуваць яму ў адным трэба: столькі напісана, але ці будзе калі надрукавана? Хаця, хіба такое толькі з пісьменнікам Уладзімірам Міхно?..

Успомніў, як мы пазнаёміліся. Напрыканцы 80-х. Я тады працаваў у аддзеле публіцыстыкі часопіса "Маладосць". Трапіўся мне нарыс невядомага аўтара з Лепельшчыны Уладзіміра Міхно. Як я ўжо недзе ўспамінаў, тады мой рэдактарскі аловак багата чаго нападкрэсліваў у рукапісе. З асалодай падкрэсліваў. Бо не моўныя хібы і стыль, а слова жывое, роднае. І бачылася за радком жыццё, людзі. Людзі хадзілі па зямлі, асветленай сонцам, шэрай ад дажджоў, белай ад снегу, сіняй ад пралесак, напоўненай фарбамі і гукамі, галасамі дзяцей і г.д. і г.д. І ўяўлялася мне — рэальнасць. І аўтара бачыў сярод іх, можа, не ўяўляў абліччa, а вось паводзіны, характар, манера размаўляць, як сустрэліся — дакладна з нарысаў.

Тут павінен зрабіць невялікае адступленне. Што б і хто не гаварыў пра "Маладосць", несумненна, часта і справядліва, але ніхто не мае права адняць адно: да маладых, асабліва з глыбінкі, тут умелі ставіцца з клопатам. І Генрых Далідовіч, і Казімір Камейша, і Віктар Гардзей, і Анатоль Казлоў (кажу пра тых, пры кім Валодзя ўваходзіў у літаратуру). Дэбюты заўсёды давалі без чаргі. Так і з Валодзем было. Напрыклад, да кнігі прозы "Горкі зефір", пасля якой Уладзімір Міхно стаў сябрам пісьменніцкага саюза, яго давёў Анатоль Казлоў.

"Маладосць" пастаянна друкавала Валодзевы нарысы пра яго землякоў, найчасцей падлеткаў. Заўважалася, што да апошніх ён ставіцца, як настаўнік. Было, павучаў. Здаралася, крыўдзіўся, але не надоўга, на сваіх "вучняў" — не заўсёды слухаюцца.

Паступова Валодзя ўжо пісаў не толькі пра тых людзей, сярод якіх нарадзіўся і вырас — жыхароў Чэрцаў — а і пра вяскоўцаў далёкіх сёл. Пранік у суседнія раёны: паўсюль у глыбінцы, аказваецца, цікавае, сваё жыццё! Вось ужо сапраўды, "скрозь жывуць людзі", ды яшчэ якія.

Як бы там ні было, а з кожнай далёкай ці блізкай паездкі па віцебскай зямлі, Валодзя вяртаўся ў Чэрцы, у сваю хату. А тут яго ўжо чакалі... мясцовыя падлеткі. І па гаспадарцы дапамагалі, калі трэба было, здаралася, і самога Валодзю суцяшалі, калі "Журнал", (так яго тут завуць), маркоціўся: не друкуюць: "Бяды той". А ён суцяшаў іх, дапамагаў, вучыў усяму, што сам ведаў з жыцця: кепскае, тое, што было б табе самому непрыемна, другім не рабі!

Цікава: скажам, калі такое будзе з дня ў дзень падлетку гаварыць настаўніца, той абавязкова зробіць чамусьці наадварот. Калі ж гэтаму вучыць паважаны ў вёсцы дарослы мужчына, пісьменнік — усе гэта ведалі — слухаюць, разумеюць. Ды як не паслухаеш, не зразумееш, калі разам абышлі паўвобласці, разам пазнаёміліся з самымі рознымі людзьмі, калі дзялілі і дзеляць хлеб пароўну, часта за грошы, заробленыя "Журналам"!

Мушу сказаць, што спачатку ў вёсцы, хоць людзі цудоўна помнілі Валодзевых бацькоў настаўнікаў, (многія ў іх вучыліся) ды і самога з пялюшак ведалі, да падлеткавых тусовак у яго хаце ставіліся насцярожана: ад няма чаго рабіць? Паступова прыгледзеліся: аказваецца, клапоціцца пра лёс кожнага. Таму дапамагае "па мове" ў школе, гэтага павёз у Лепель паступаць у тэхнікум, таго аж но ў Мінск... Многіх вясковых хлопцаў Валодзева хата як падмяніла — вылюднелі...

Такім чынам жыхар з вёскі Чэрцы, пісьменнік Уладзімір Міхно выбудаваў свой свет там, дзе нарадзіўся, гадаваўся, рос, адкуль аднойчы пайшоў вучыцца, служыць і куды вярнуўся сталым чалавекам, пабачыўшы жыццё такім, як ёсць.

Як пісьменнік дома Валодзя працаваў. Напісаў кнігу "Азартныя гульні". Перш чым выдаць, як і многія з нас, вымушаны быў прайсці праз прыніжэнні перад рознымі кіраўнікамі арганізацый, "родных" нашых, "збіраючы" тыраж: "Закажыце..." І часам мне здаецца, што больш не захоча прыніжацца (збіраць тыраж) будзе пісаць "у стол". А гэта для літаратара трагедыя...



Кніга ж тая, аповесць "Азартныя гульні", — пра яго службу ў войску далёка ад роднай зямлі. У будбаце. Можа, я памыляюся, але, здаецца, У. Міхно першы ў нашай літаратуры паказаў, як чалавек можа застацца чалавекам у атмасферы "беспредела", які існаваў у тым войску. (Ні з "Зоркамі над палігонам", ні з "Сто дней до приказа" не параўноўваю: і там і там — іншае.).

Такім чынам Уладзімір Міхно, жывучы ў правінцыі, выбудаваў, вобразна кажучы, іншую хату. Гэта яго творы, што чытаюць земляки. Рэальнай жа хаце, дзе яму разам са сваімі сябрамі (ужо чацвёртае пакаленне падлеткаў) добра і светла, Уладзімір Міхно прысвяціў прыпавесць, аб якой я ўжо гаварыў. (Хаця над творам пазначана, што прысвечаны ён светлай памяці бацькі і маці.) Калі чытаеш твор, адчуваеш тое цяпло і святло, якім гэтая хата надзяліла сям'ю, і якімі хату сям'я надзяліла.

Калі будзеце чытаць прыпавесць Уладзіміра Міхно "Хата", мяркую, па ёй зразумееце многае з яго чалавечага і пісьменніцкага лёсу. Напрыклад, што ён без свае хаты, як захавальніцы бацькоўскай цеплыні і сардэчнасці, без людзей, сярод якіх нарадзіўся і вырас, і ад якіх не зачыняюцца дзверы, не ўяўляе жыцця. Творчага таксама. А яшчэ: такія, як ён, ніколі не змірацца з тым, што сярод людзей можна жыць, парушаючы законы сумлення. Вядома, законы тыя не пісаныя. Яны (пра гэта сведчыць ўся наша літаратура часоў ранейшых, ды і лепшыя творы сённяшняга часу), спрадвеку жывуць у народзе. Яны перадаюцца з пакалення ў пакаленне, з хаты ў хату, і гэтак далей. Яны павінны сягаць туды, дзе мы, тыя, што "з хат". Інакш усё трацiць сэнс. Вось як пра ўсё гэта, пра сябе сказаў ў сваім вершы Уладзімір Міхно:

*Людзі едуць на дачу, у адведкі... да маці,*
*Настальгуюць па вёсцы са сталічных нябёс.*
*Я не госць-прыхажай у бацькоўскае хаце,*
*Тут планіда мая, тут Радзіма, тут лёс.*
*Мне казалі, нібыта за Лепелам лепей,*
*У сталіцы культура і шмат кілбасы,*
*Я паверыў, ды ўдалечы сніўся*
*мне Лепель...*
*Запаведныя вёскі, баравыя лясы...*
*Бачыў маміну хату і маму у хаце,*
*Там, дзе бацька прылёг, —*
*на кладах курганок,*
*І пачулася мне, бы паклікала маці:*
*"Ты прачніся, сынок, ты вярніся, сынок!"*
*І чаўрэла душа на асфальце пякучым,*
*І ўцякаў я, злавіўшы "папутку" за хвост,*
*Каб падыхаць паветрам празрыстым,*
*гаючым,*
*Каб убачыць ізноў праз Бярэзіну мост.*
*Апусцела ў душы, абязлюдзела ў хаце,*
*Я вярнуўся дадому, цяпер — да сябе,*
*І, пакінуўшы іншым пасады, багацце,*
*Дацямна паруплюся на ціхай сяўбе...*
*Людзі едуць на дачу, у адведкі... да маці,*
*Настальгуюць па вёсцы са сталічных нябёс.*
*Я не госць, не чужы ў бацькоўскае хаце,*
*Я — тутэйшы, бо Лепель, бо Чэрцы —*
*мой лёс.*

**Уладзімір САЛАМАХА**

---

Захарава, 19



## РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***
***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***
***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл.: 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы абавязаны памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: мы — беларусы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL gazeta_lim@tut.by.**




Чарговае (13 лютага) пасяджэнне "Літквартала", можна сказаць што ўжо па традыцыі, пачалося са знаёмства, бо на гэты раз сабралася больш трыццаці маладых літаратараў. Сярод іх С. Кананoвіч, В. Логінава, А. Спрынчан, Я. Конеў, Т. Будовіч, В. Барткевіч, І. Мажар, Я. Лайкоў, А. Алекса, І. Клепікаў, А. Вайцяшонак, К. Сідарук, М. Есьман, В. Гарністава, А. Бязлепкіна, Н. Дзянісава, С. Зажыцкі, В. Іваноў і іншыя.

Пасля самапрадстаўлення, як гэта і планавалася ў папярэдні чацвер, пачалося абмеркаванне паэзіі Сяргея Патаранскага. З грунтоўнымі разглядамі выступілі В. Трэнас, У. Гарачка, Н. Капа, С. Мінскевіч.

Па ходу абмеркавання вершаў, сябры супольна закранулі і іншую тэму — літаратурная крытыка: наколькі яна аб'ектыўная? Н. Кучмель, заўсёдніца "Літквартала", агучыла наступнае меркаванне: "Крытыка не можа быць аб'ектыўнай, бо выказваецца суб'ектам".

Слухаючы нашы спрэчкі як бы збоку, адзін з гасцей "Квартала" зазначыў, што ў некаторых прамовах "няма любові да паэзіі — ёсць любоў да сябе". Ускосна яго падтрымаў А. Туровіч.

Так атрымалася, што абмеркаванне паэзіі С. Патаранскага вельмі зацягнулася — на штo-небудзь іншае проста не засталося часу. Таму на дальнейшае вырашылі ўсталяваць рэгламент. Таксама вызначыліся з аўтарам, чыя творчасць будзе абмяркоўвацца праз тыдзень — гэта В. Трэнас. А бліжэйшае пасяджэнне, якое пройдзе 20 лютага а шостай гадзіне ў рэдакцыі "ЛіМа" будзе аддадзена размовам на "вольную" тэму і чытанню новых твораў.

**Усевалад ГАРАЧКА**

## ЗАПРАШАЕМ!

Усіх, хто ведаў і любіў паэтку Анэлю ТУЛУПАВУ запрашаем на вечарыну памяці 26 лютага 2003 г. Пачатак а 18-й гадзіне. У памяшканні Дома Дружбы (вул. Захарава, 28).

**Родныя і сябры**

# «НІШТО НЕ АДАРВЕ МЯНЕ АД БЕЛАРУСІ...»

**На паліцах кнігарань нядаўна з'явіўся чарговы том серыі "Беларускі кнігазбор". Гэта — "Выбранае" Гаўрылы Гарэцкага. Нехта можа засумнявацца: так, Гаўрыла Гарэцкі славуты вучоны-геолаг з сусветным імем, акадэмік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, але ці ж трэба прадстаўляць "вузкага" спецыяліста-прыродазнаўцу масаваму чытачу?**

**Ды сумненні чытача развеюцца адразу, калі будзе разгорнута кніга. З яе чытач убачыць, што Гаўрыла Гарэцкі — апрача ўсяго выдатны навуковец-грамадазнавец, актыўны дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння, палымяны публіцыст, які даволі часта і плённа выступаў у беларускім і "саюзным" друку.**

**Першым публіцыстычным выступленнем Гаўрылы Гарэцкага быў палемічны артыкул "Беларускі рух і "тоже белорусы", напісаны 17-гадовым юнаком. У ім аўтар горача выступаў у абарону нацыянальных правоў свайго беларускага народа. Гэтым артыкулам, падпісаным вельмі выразным псеўданімам "Сын маці Беларусі", і адкрываецца першы раздзел кнігі — "Нацыянальнае адраджэнне", публіцыстычныя выступленні Гаўрылы Гарэцкага гэтага раздзела адносяцца да 20-х гадоў — часу найбольшага ўздыму беларускага руху. Завяршаецца раздзел унікальнай, вельмі смелай заявай Г. Гарэцкага ў ДПУ Беларусі, напісанай у жніўні 1930 года з такім загалоўкам — "Трагедыя беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі". Другі раздзел "Народная гаспадарка, дэмаграфія" працягвае тую ж патрыятычную лінію, паглыбляе "беларускае пытанне". На аснове новых, у тым ліку ім самім сабраных матэрыялаў акадэмік Гарэцкі вызначае этнаграфічныя межы Беларусі з Польшчай, падлічвае колькасць беларускага насельніцтва розных рэгіёнаў Заходняй Беларусі, паказвае этнічны склад усёй рэспублікі, потым вывучае працэнт беларусаў сярод народаў СССР, іх стаўленне да роднай мовы. Свае даследаванні ён ілюструе адпаведнымі картамі, якія не страцілі цікавасці і навуковай вартасці і сёння.**

**Можна сказаць, на адным дыханні чытаюцца вылучаныя ў асобны раздзел і ўспаміны Гаўрылы Гарэцкага пра свайго старэйшага брата — класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, пра яго сям'ю, пра трагічную гібель пісьменніка.**

**У 1918 годзе браты Гарэцкія — Максім і Гаўрыла — сумесна падрыхтавалі і выдалі ў Смаленску "Расійска-беларускі слоўнік", праз два гады яны перавыдалі яго ў перапрацаваным і дапоўненым выглядзе. У кнізе цалкам друкуецца другое выданне гэтай працы, якую аўтары назвалі цяпер "Маскоўска-беларускі слоўнік". Слоўнік будзе цікавы не толькі навукоўцам-мовазнаўцам, але і ўсім, хто хоча ведаць жывую беларускую мову.**

**Вялікі раздзел склалі ў кнізе лісты Гаўрылы Гарэцкага, якога гвалтоўна разлучылі ўлады з роднай зямлёй. З іх відаць, якая нялёгкая доля выпала беларускаму акадэміку. Але ніякія сілы не здолелі зламаць беларускага духу Гаўрылы Гарэцкага. У лісце да сябра сям'і Гарэцкіх Якуба Коласа ад 21 студзеня 1956 г. акадэмік пісаў: "Ніколі, ніколі, ні на хвіліну не адрываўся я ад Беларусі, верыў і веру ў яе шчаслівы лёс, у яе самую светлую будучыню, у бліскучы росквіт беларускае савецкае культуры, у неўміручасць свайго народа, і нішто не адарве мяне ні ад Беларусі, ні ад беларускага народа".**

**Добра завяршаюць кнігу ўспаміны сыноў Гаўрылы Гарэцкага — акадэмікаў Усяслава і Радзіма Гарэцкіх.**

**Пра жыццёвы шлях і навукова-літаратурную спадчыну славутага акадэміка расказвае ва ўступным артыкуле да кнігі пісьменнік, доктар філалагічных навук Міхась Мушынскі. Яго лагічна дапаўняе блок фотаілюстрацый.**

**Н. КУДРЭЙКА**



# ЧУЖАЯ ПРАЎДА

## ВОБРАЗ ІНТЭЛІГЕНТА-АДРАДЖЭНЦА Ў ПРОЗЕ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА



Адна з вядомых манаграфій, прысвечаных творчасці гэтага класіка беларускай літаратуры, — кніга "Паміж былым і будучым" Івана Чыгрына, якая выйшла ў свет у 1994 годзе. У ёй даследчык на падставе разгляду публіцыстыкі нашаніўскага перыяду і шэрагу празаічных твораў пісьменніка падыходзіць да крыху нечаканых высноў адносна вобразнага свету твораў Максіма Гарэцкага.

Цэнтральнае месца ў мастацкай структуры творчасці гэтага пісьменніка займае вобраз інтэлігента-адраджэнца, які шукае сваю праўду, а знаходзіць, на вялікі жаль, толькі праўду чужую... Між тым, як некалі заўважыў Вацлаў Ластоўскі ў сваім артыкуле, апублікаваным у зборніку "Велікодная пісанка" ў 1914 годзе пад назвай "Гутарка аб праўдзе" і падпісаным псеўданімам "Власт": "Запраўды кажу вам: няма горшага звера ў свеце, як чалавек, які забіў і палажыў, як жэртву, сваю праўду на алтар чужой праўдзе. І няма крапчэйшых ланцугоў і астрогаў, як чужая праўда. Будзіце ж духа, каб праўда ваша, свая праўда, прарасла, узрасла, закрасавала і дала плод!.." Літаратуразнаўца Іван Чыгрын слушна адзначае, што прыведзеную вышэй цытату можна было б паставіць эпіграфам да ўсёй творчасці Максіма Гарэцкага. Відаць, гэтыя словы Власта добра стасаваліся б і з сучаснымі развагамі многіх нашых знакамітых пісьменнікаў і публіцыстаў наконт ролі і месца інтэлігенцыі ў гістарычным працэсе. Яшчэ ў пачатку XX ст., калі на арэну грамадскага і палітычнага жыцця выйшлі новыя персанажы, у тым ліку інтэлігенты-адраджэнцы, якія спадзяваліся абудзіць у сваім народзе жыццёвыя і творчыя сілы, узняць яго на вышыню, не бачаную нікім дагэтуль, з'явіліся пісьменнікі, што адлюстравалі гэта ў сваёй творчасці. Вобраз інтэлігента паўстаў ва ўсёй яго неадназначнасці і на старонках публіцыстычных артыкулаў і празаічных твораў Максіма Гарэцкага. Хто гэты чалавек, чым ён, як кажуць, "дыхае", на што спадзяецца і чаго прагне? Вось пытанне, якое ставіць перад сабою пісьменнік і адказ на якое ён спрабуе знайсці ў сваёй творчасці.

Але гэтая праблема вельмі сучасная, актуальная і для ўсёй нашай цяперашняй літаратуры. Гаворка ідзе тут пра пафас, пра той ідэйна-мастацкі запал, які павінен быць у кожным творы і напаўняць яго нейкім узвышаным значэннем ці сэнсам... Інакш кажучы: куды мы, пісьменнікі, вядзём нашага чытача? Таму што і цяпер, як і тады, пачатак стагоддзя. І цяпер, як і тады, у часы Максіма Гарэцкага, многія людзі адчуваюць сваю разгубленасць перад жыццём і не ведаюць, як пабудаваць яго "на новы лад" (Я. Колас), а значыць — напружана шукаюць нечага новага, што б натхняла іх, узносіла над будзённасцю. Ад мастацкай літаратуры наш сучаснік чакае нейкага "адхлання", спажывы для душы і розуму. Ды ўсё ж, як здаецца, не "плачу аб роднай старонцы".

Як жа вырашалі для сябе гэтую праблему пісьменнікі мінулага стагоддзя? У сваім артыкуле "Сплачывайце доўг" Юры Верашчака (той жа Вацлаў Ластоўскі) піша наступнае: "...край наш не такі страшны, не такі сумны, брудны і бедны. Жывой красы ў прыродзе нашага краю, у людзях многа, хіба тое толькі сумна, што мы яе падмеціць, падгледзець не ўмеем". Тады ж выходзіць першы зборнік апавяданняў Максіма Гарэцкага "Рунь". І ў адным са сваіх артыкулаў, прысвечаных праблемам маладой беларускай літаратуры і змешчаным у газеце "Наша Ніва", той жа Юры Верашчака зазначае: "Нашы пісьменнікі павінны вырабляць талент не на дэкадэншчыне, а на ўсясветнай класічнай літаратуры; павінны не толькі раскрываць раны свайго грамадзянства і называць яго калецтвы, але і шукаць чалавека будучыны, чалавека сільнага, здаровага чалавека — цара прыроды" ("Па сваім шляху"). Такім чынам, пытанне станоўчага героя паўставала перад беларускай літаратурай і ў мінулым стагоддзі...

У ранніх творах Максіма Гарэцкага — напісаных, падкрэслю, у рэалістычнай манеры — знайшоў сваё ўвасабленне вобраз гэтага новага героя. Драматычная аповесць "Антон", якая была выдадзена асобнай кнігай у Вільні ў 1919 годзе, калі верыць Івану Чыгрыну, і прысвечана надзённай праблематыцы жыцця беларускай інтэлігенцыі. Героі твора — Польскі публіцыст, Маскоўскі дэмакрат і Беларускі аўтар, што сабраліся разам у Вільні за кубачкам кавы, вядуць гаворку пра селяніна Антона Жабона. Той скончыў жыццё самагубствам пасля таго, як зарэзаў уласнага сына. У сваёй аповесці Максім Гарэцкі вуснамі Беларускага аўтара спрабуе вытлумачыць гэты незразумелы многім учынак Антона: "...народ мой — народ-паэт, паэт-лірнік, народ, каторы ў гістарычным жыцці сваім заўсёды больш схіляўся к патрэбам душы, чымся к патрэбам цела... дзеля душы ён шукаў і шукаў без канца і стварыў цікавейшую гісторыю, багатую не завяваннямі другіх народаў, а завяваннямі духу, завяваннямі ў вывучэнні самога сябе..." Магчыма, прычына ўчынку Антона Жабона — у залішняй заклапочанасці гэтага селяніна станам сваёй душы?

Дык вось і тыповы беларускі інтэлігент — як у той час, так і цяпер — жыве, калі паспрабаваць паглядзець на

# ХРЫСЦІЯНСКАЯ ТРАДЫЦЫЯ

## Ў АПАВЯДАЛЬНАЙ ТВОРЧАСЦІ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА 1920-х ГАДОЎ

Каб зразумець творчы свет М.Гарэцкага, пранікнуць у глыбінны сэнс яго вобразаў, неабходна ўсвядоміць тую акалічнасць, што мастацкая вобразнасць для пісьменніка з'яўляецца найперш прымальным і адэкватным сродкам выяўлення яго сакральнай інтуіцыі, адносна сутнасці і лёсу чалавека ў гэтым недасканалым, але з імкненнем да дасканаласці, свеце. Ідэі, сугучныя ідэям хрысціянскай рэлігійнай філасофіі (асабліва тым, якія тычацца метафізікі чалавечага быцця) праходзяць праз усю творчасць М.Гарэцкага.

Найбольш выразна мастацкі прынцып адлюстравання празаіка абвяргае ўяўленне (якое панавала ў розных версіях светапогляду пачатку XX стагоддзя – ад марксізму да пазітывізму) аб тым, што чалавек — гэта толькі дробная пясчынка Сусвету, звалюцыйны яго элемент, які адрозніваецца і вылучаецца на фоне астатняга быцця толькі наяўнасцю розуму. Для М.Гарэцкага чалавек — неад'емная частка быцця, той яго складнік, які ажыццяўляе сувязь усіх яго элементаў і праз які ўсе элементы быцця атрымліваюць той ці іншы сэнс, тое ці іншае прызначэнне, якое надае гарманічную цэласнасць працэсу існавання.

Для пісьменніка чалавек паўстае нібы "сведка", "боскі паверaны" ўсяго таго, што адбываецца ў быцці. Чалавек надае сэнс падзеям і быццю ў цэлым. Для Гарэцкага-пісьменніка найбольш важным выступае не столькі дзейнасць, актыўны ўдзел у рэалізацыі, колькі простае сузіранне, якое нясе ў сабе клопат пра ўсё, што здараецца ў свеце. Аўтарская манера выяўлення — знешне пасіўная, але звязаная з глыбокім прынцыпам свету і выяўленнем усіх яго бясконцых сэнсаў і значэнняў — надае мастацкай рэалізацыі глыбокі метафізічны, рэлігійны падыход.

Агульнавядомая біблейская выснова – "на пачатку было Слова" — знаходзіць у творах М.Гарэцкага ключавую сэнсавую ўстаноўку ў поглядзе на сутнасць зямной долі чалавека. У многіх апавяданнях героі аўтара прагнуць спазнаць і выказаць "Слова", якое б выяўляла першасны сэнс быцця. Адсюль у творах такая напружаная самарэфлексія герояў, якая задаецца "разрыўнымі пытаннямі": заклапочаная, самаіранічная, адчайная спроба спасцыжэння сутнасці нацыянальнага самасцвярджэння. Як прыклад — апавяданні "Ідуць усе, іду і я...", "Чорны лебедзь" і інш. Сам тэрмін-



Бацькі М. ГАРЭЦКАГА — Іван Кузьміч і Ефрасіння Міхайлаўна.

яго вачыма Максіма Гарэцкага, нібы нейкая кволая істота, што без канца жаліцца-скардзіцца на сваю долю. Ён увесь час плача, наракае на нешта: то на сваю слабасць, то на немач, то, у рэшце рэшт... на ўласнае гультайства. А ўявіць сабе, што ён бярэ сваё жыццё ў свае рукі, змагаецца, не паддаецца жалобна-хаўтурнаму настрою і адганяе прэч ад сябе нуду, — мо гэта ўжо не інтэлігентны чалавек? Роля інтэлігента ў грамадскім быцці спрадвеку заключалася ў тым, каб выхоўваць, весці за сабою, вучыць іншых. Чаму ж можа навучыць прафесійны плакальшчык? Шкада, аднак — нічому добраму.

Як бачым, творчасць Максіма Гарэцкага актуальная для нас і цяпер, прычым, можа быць, так, як ніколі. У адным са сваіх артыкулаў ён, напрыклад, ставіць перад беларускім мастацтвам задачу: "Падняць беларуса да ідэальнага чалавека!" Іншага выйсця няма: або расці і развівацца, або загінуць. Гэта датычыць і асобна ўзятага чалавека, і ўсяго народа ў цэлым, і нашай літаратуры. Слушнасць такога меркавання пацвярджаюць і тыя творы Максіма Гарэцкага, у якіх паказаны менавіта інтэлігенты, — аповесць "У чым яго крыўда?" і "Меланхолія". Іван Чыгрын заўважае, што пісьменнік як бы прыглядаецца да свайго героя, не ведае, з якога боку да яго падысці. Права выбару таго ці іншага варыянта стаўлення да персанажаў, хутчэй за ўсё, аўтар пакідае за сваім чытачом. Апавяданне М. Гарэцкага "У 1920 годзе..." таксама прысвечана тэме інтэлігенцыі і яе ролі ў народным жыцці. Вобраз інтэлігента, намаляваны ў ім, ужо рэзка адрозніваецца ад створаных пісьменнікам раней. Гэта ж можна сказаць іадносна вобраза Курапы (партыйная мянушка героя — Жабін), створанага ў апавяданні "Апостал". Але ўжо гэты апошні ўсё ж не вытрымлівае выпрабавання, калі можна так сказаць, "дзейнасцю". У сваёй манаграфіі Іван Чыгрын адзначае хісткасць і няпэўнасць мяжы, якая аддзяляе чалавека ад жывёліны, — але гэтая мяжа, безумоўна, існуе: "Курапа і сам канчаткова перастае і слухаць, і разумець народ. Там, дзе можна дзейнічаць словам, хапаецца за рэвальвер. Строга кажучы, перастае быць інтэлігентам...". Такім чынам, як заўважае даследчык, людзей немагчыма загнаць у рай дубінкай, шлях гэты бесперспектыўны і звычайна прыводзіць да няўдачы.

Калі зрабіць спробу разабрацца ў ідэалах Максіма Гарэцкага і высветліць, чаго ж ён чакаў ад інтэлігенцыі і на што ў ёй спадзяваўся, — акажацца: інтэлігент для яго мусіў быць асобай творчай, дзейснай і актыўнай. Ці не гэтага хацеў бы ад усіх нас народ і ці не гэта ён лічыць неабходным для сябе бачыць у інтэлігенцыі?..

**Святлана ЯВАР**

сімвал "Слова" падкрэслівае нядзейсны, абстрактны характар пошуку праўды жыцця, менавіта боскі яго шлях. Дзеянне найчасцей скажае сэнс рэчаў і з'яў, бо можа поўнасцю рэалізавацца толькі ў "асветным свеце", дзе зразумелыя ўсе яго значэнні. Вось чаму ў апавяданні "Ідуць усе, іду і я..." у эпіграфе гучаць такія словы: "У наш сённяшні (рэвалюцыйны — **І.Ш.**) час задаволенымі могуць быць толькі фанатыкі з таго ці іншага боку". Фанатызм ёсць аслепленасць, цемра ў поглядзе на рэчаіснасць, якая нясе ў сабе страшны зарад разбурэння.

"Асветленае дзеянне" заўсёды выступае амаль незаўважным, мінімізаваным, паколькі яно не павінна "трывожыць" быццё, а рэалізавацца ў ім як яго асабіста выпакутаваная сіла. Чалавеку рэдка ўдаецца ажыццявіць працу дзеяння так, каб навокал адбылася канцэнтрацыя энергіі агульнай гармоніі. Бо толькі трансцэндэнтнае, боская праяўленасць жыцця не мае і не можа мець мяжы ў сваёй пераўтваральнай функцыі. Але ў грамадстве чалавек, нават ідэалогія маюць рубеж, мяжу, якая ёсць праявай існавання ў часе. Усведамленне гэтай ісціны разумелася творцам як неабходнасць спасціжэння грамадствам вымушанай абмежаванасці ператраўліванні працэсу, магчымасці людской супольнасці ставіць сабе рубеж у "пeратраўліванні" саспелых магчымасцей, не разбураючы саму сябе. З гэтага пункту гледжання нам робіцца больш зразумелым, чаму часта героі М.Гарэцкага паўстаюць людзьмі пасіўнымі, сузіральнымі, амбівалентнымі. Але разам з тым заўважаем: у кульмінацыйны момант яны нярэдка робяць учынак, які ўносіць абсалютна новы сэнс у падзейны фон мастацкага твора. Гэта ўчынак-дзеянне ў творы амаль незаўважны — ён не выстаўляецца аўтарам, не з'яўляецца яркім і эфектным, але з'яўляецца вызначальным у пераўтварэнні хаосу ў гармонію: хоць і імгненную, але ў перспектыве існавання — вечную.

**(Заканчэнне на стар. 13)**

**ДАНІНА ПАВАГІ**

# З МАЛІТВАЙ У ДУШЫ

## 65 ГАДОЎ Ізяславу КАТЛЯРОВУ



Калі гаварыць пра паэзію Ізяслава Катлярова, які піша на рускай мове, трэба сказаць, што ў яго творчым набытку маецца больш дзесятка паэтычных кніжак. Але творчасць любога аўтара вымяраецца і цэніцца не колькасцю надрукаваных вершаў ці зборнікаў, а іх мастацкай якасцю і вартасцю. Можна напісаць адзін верш, як гэта зрабіў П. Багрым, і застацца ў паэзіі, і накрэмзаць вёрсты рыфмаванай бязглуздзіцы і быць далёка ад літаратуры. Што тычыцца І. Катлярова, то Бог не абдзяліў яго талентам. Гэта пацвярджае яго творчасць, у тым ліку і кніжка паэзіі, якая ў свой час выйшла ў маскоўскім выдавецтве "Советский писатель". Пасля выхаду кніжкі ў свет з маскоўскім выдавецтвам у паэта завязалася трывалая творчая дружба, з'явіліся цесныя сувязі. Магчыма, ён і надалей бы супрацоўнічаў з ім, калі б не разваліўся былы Саюз. Таму наступныя кніжкі І. Катлярова з філасофскімі, значнымі і ёмістымі назвамі "А душа и в молитве болит", "Но даже умираем, чтобы жить", "Земля простит, но не прощает небо", "Россыпь", "Куда б ни шел — иду к своей судьбе", выходзілі ў нашых рэспубліканскіх выдавецтвах. Трэба зазначыць, што ў гэтых кніжках сабрана ўсё лепшае і значнае, што напісаў паэт за апошнія гады, якія былі для яго асабліва плённымі. Ён не толькі шукаў новыя тэмы, вобразы, мастацкія сродкі, для ўвасаблення сваіх задум, але і стараўся рассунуць, пашырыць рамкі тых паэтычных форм, якімі, хоць і рэдка, але карыстаюцца нашы творцы. Паэт напісаў кніжку трыялетаў, вянкі санетаў, зборнік трыялетаў, стварыў вянок вянкоў санетаў, аддаўшы ім нямала творчых сіл, энергіі, вядома, часу. Пішучы санеты і трыялеты, ён выкарыстоўваў розныя памеры радка, адмовіўшыся ад тых канонаў, што былі замацаваны за імі ў сусветнай практыцы вершаскладання. Паэт звярнуўся да розных тэм, браў іх з Бібліі, звяртаўся да крылатых выразаў, філасофскіх выказванняў і, адштурхоўваючыся ад іх, ствараў цікавыя творы. Але куды б ні заносіла яго багатая творчая фантазія, ён заўсёды вяртаўся да роднай зямлі, да радзімы. І часцей за ўсё паэт звяртаецца да прыроды, усяго таго, што акружае нас, а таксама выказвае свае адносіны да падзей, што адбыліся ці адбываюцца ў нас. У большасці выпадкаў ён робіць і гаворыць так, каб мы думалі, фантазіравалі, здагадваліся і адначасова адчувалі сябе акрыленымі, уражанымі, як гэта бывае падчас сустрэчы з нечым незвычайным і неардынарным, як вось з гэтымі страфамі.

*Боже мой, до чего молчаливы*
*и обидчивы здесь небеса.*
*Синевы неподвижны разливы,*
*облаков каменеет краса.*
*Только взглядом не чувствую*
*боли,*
*а душа и в молитве болит.*
*Под землёй, как возмездие,*
*что ли,*
*Неподвижное небо стоит.*

Пра што гаворыцца ў гэтых радках? Хоць аўтар не расшыфроўвае, не ўдакладняе, дзе знаходзяцца гэтыя "молчаливые и обидчивые небеса", мы здагадваемся, што гаворка ідзе пра Палессе, пра трыццацікіламетровую чарнобыльскую зону, абнесеную калючым дротам. У вершы на поўную моц гучаць аўтарскае "я", асабістыя адносіны да таго, пра што гаворыць паэт. Але для яго мала і гэтага. Лірычны герой як бы звяртаецца яшчэ з адным маналогам да неба. У выніку атрымліваецца цікавая рэч: твор нагадвае маналог у маналогу:

*"Пусть клубятся, лохматятся,*
*мчатся*
*облака да и тучи твои*
*Громыхают, сверкают, грозятся —*
*но, пожалуйста, небо, живи!*
*Воссияй над угрюмейшим лесом*
*не покинь в непосильной борьбе.*
*Дай надежду и градам, и весям,*
*этим людям, покорным тебе".*

У вершы якраз дарэчы гучаць старажытнаславянскія словы, якія адносяцца да высокага паэтычнага стылю, надаючы вершу асаблівы каларыт, асаблівую падсветку і ўзвышанае інтанацыйнае гучанне, якое настройвае на аптымістычны лад. У другім вершы ("А живу я не в замкнутом круге, — все виденья рукою смахнул, и гляжу в непонятном испуге, как несется невиданный гул") у паэта нават абстрактнае і нематэрыяльнае набываюць рысы і якасці канкрэтнага і матэрыяльнага. Ён здольны нават прывіднае змахнуць рукою, як, скажам, можна змесці са стала хлебныя крошкі. Што гэта? Свядомае ігнараванне рэчаіснасці, альбо нежаданне бачыць і ўспрымаць навакольнае так, як яго бачаць іншыя? Але ўсё-такі, што гэта за гул, ад якога "глохнет слух и слезятся глаза"?. Задаючы пытанне не толькі для сябе, але і для ўсіх нас, паэт хоча ўдакладніць:

*Это гул сотворения мира*
*или, может быть, краха его?*

У радках паэт гаворыць пра нашу рэчаіснасць, пра тое, што адбываецца ў нашай рэспубліцы сягоння. Ды і ці толькі ў рэспубліцы! Магчыма, на ўсёй тэрыторыі былога Саюза. Хіба ў радках не знайшло водгулле тое, што адбылося пасля агульнавядомай сустрэчы ў Белавежскай пушчы, альбо не адгукнулася трагедыя, што адбывалася і адбываецца ў Чачні ды і ў іншых гарачых, як модна цяпер гаварыць, кропках былой вялікай дзяржавы, напрыклад, на граніцы Туркменіі і Афганістана.

Дарэчы, цікава спыніцца і завастрыць увагу чытачоў на адной дэталі. Справа ў тым, што верш пісаўся раней таго часу, тых падзей і канфліктаў, якія ўспыхнулі ў Чачні і на граніцы Туркменіі і Афганістана. Аўтар пісаў твор, як бы гэта больш далікатна сказаць, усляпую. Але хіба не бачна, як актуальна, і да месца гучыць ён сягоння. Вось што значыць умець гаварыць маштабна і разам з тым глыбока, закранаць такія бакі жыцця, каб верш меў багаты падтэкст, мог выклікаць у душы безліч асацыяцый, наводзіў на роздум, будзіў фантазію не толькі сучаснікаў, але і нашых нашчадкаў, якія, трэба думаць, будуць сведкамі падзей і гулу, які таксама народзіць пытанне: "Это гул сотворения мира или, может быть, краха его?"

Аўтар дасягае вось такога значнага эфекту з той прычыны, што ён не аддзяляе сябе ад усяго свету і ў першую чаргу людзей, побач з якімі ён жыве, хварэе тым, чым жывуць і хвараюць яны.

"И глядит на меня синева не пытливым — пытающим взглядом". Згадзіцеся, што два словы, так блізкія па гучанні, вельмі розныя па сэнсе. І хто гэта глядзіць "не пытливым, а пытающим" позіркам? Як ні дзіўна, само святое неба. Можа, яно не так ужо пільна ўзіраецца ў паэта, як яму здаецца, але на зямлі столькі ўсялякіх бядот і гэтулькі нягод, што паэтава душа не знаходзіць сабе месца. Безумоўна, у таго, хто абыякава глядзіць на тое, што творыцца навокал, не забаліць сэрца, не заные душа, для яго не здасца, што сінява глядзіць "пытающим взглядом". Але паэт на тое і паэт, каб чужы боль успрымаць, як свой уласны, чужую трагедыю, як сваю. Катляроў і лірычны герой заяўляюць: "Ничего не хочу упросить" і далей: "Все же лучше молитвой спросить, чем такой же молитвой ответить". Лірычнаму герою аўтару балюча за тое, што ўсе мы як быццам толькі і думаем, пра сягоняшні дзень, свае сягоняшнія патрэбы, забываючы пра заўтрашняе, пра будучае нашых нашчадкаў.

*Снова клена отчаянный взмах,*
*снова листья слетаются в слякоть.*
*И увянувший воздух в глазах,*
*от которого хочется плакать.*

Як бачым, Ізяслаў Катляроў зноў і зноў вяртаецца да прыроды, глядзіць праз яе прызму на наша грамадства.

Паэта, як і многіх яго равеснікаў, цікавіць і хвалюе пытанне жыцця і смерці. Ці можа быць чалавек бессмяротным, як сама, акаляючая яго, прырода? Лірычнаму герою, які гаворыць самому сабе: "Вот и мой завершается век", канечне, цяжка ўсведамляць сваю трагедыю, цяжка расставацца з жыццём, са светам. І як гэта бывае ў журботныя хвіліны, яму хочацца пабыць сам-насам з прыродай, магчыма, у апошні раз, адчуць яе гаючую сілу і прыгажосць. І яму здаецца, што неба як бы папракае яго: "Ишь, чего захотел, человек!" Маўляў, кесару кесарава! Але ўжо такая чалавечая натура, такая звычка, выпрацаваная на працягу тысячагоддзяў: цягнуцца да жыцця, прагнуць яго.

Звяртаючыся да вечнага і часовага, паэт разглядае іх у філасофскім плане.

*Вновь между звезд и плит*
*Иду задумчиво, устало —*
*И воздух на меня глядит*
*глазами тех, кого не стало.*

Згадзіцеся, што вельмі нечакана і інтрыгуюча гучаць апошнія радкі: "И воздух на меня глядит глазами тех, кого не стало". Вобраз уражвае сваёй фантазіяй.

Як і ў кожнага паэта, маюцца ў яго вершы, у якіх ён разважае пра паэзію, яе прызначэнне.

*Не вмещалось дыханье*
*в строку: —*
*Я уже начинал задыхаться, —*
*что вне слова дышать не смогу,*
*и хотел и не смог догадаться.*

Вось што значыць для паэта мастацкае слова! Гэта мука, катаванне самога сябе і незвычайная асалода, а пасля ўсяго — творчая стома, якая прыносіць радасць. Пісаць для паэта: "Воскресать — умирать — воскресать". І гэта сказана не для прыгожага слова. У радку — жыццёвае і творчае крэда паэта.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

# УЗВЫШЭННЕ

### Уладзіміру ДАМАШЭВІЧУ — 75

Калі пра чалавека пішаш не ўпершыню, але ўсё адно з задавальненнем і нават з нейкім адчайным пожадам — нарэшце выказацца дарэшты, каб выявіць яго такім, які́м ён ёсць, то, пэўна, што чалавек той варты не толькі тваёй асабістай павагі, але і пашаны ўсёй нацыянальнай грамады.

Так. Вядома, варты...

Зрэшты ўсе свае 75 гадоў ён годна абыходзіўся без вялікай пашаноты, хоць, па вялікім рахунку, працаваў дзеля росквіту беларускай культуры і станаўлення незалежнай дзяржавы. Не атрымалася так як жадалася? Дык "яшчэ ж не вечар"... Шарая гадзіна толькі. Схіл чалавечага веку...

Уладзімір Дамашэвіч — чалавек і пісьменнік традыцыйны. Прычым — непахісна традыцыйны. Шчырасць і сумленнасць — характэрныя вызначэнні яго жыцця і літаратурнай творчасці. Як міфалагічны Сізіф, ускочваў ён "цяжкі камень" сваёй праўды на "высокую сацыялістычную гару", таемна спадзеючыся ўсё ж аднойчы паўтарыць услед за Рыгорам Барадуліным:

Далёка бачыў на гары —
Ідзі з гары спакойна,

ажно да той пары, пакуль "камень з гары" не абрынуўся ўніз, падмінаючы пад сабой і яго самога, і ўвесь яго жыццёвы наробак...

"Я хачу, каб мае дзеці засталіся беларусамі. Мне кажуць: а хто ім не дае? А я адкажу: усё не дае: яслі, дзіцячы садок, двор, школа, газета, радыё, кіно, любая наша ўстанова. Яшчэ горш тое, што патрабаванне роднай мовы стала крамольным актам і некаторымі расцэньваецца як нацыяналістычнае, як праяўленне нацыяналізму. А калі і дзе патрабаванне элементарных нацыянальных свабод лічылася нацыяналізмам?" — гаварыў ён з трыбуны пленума СП БССР ў 1968 годзе. Але хіба не тыя ж самыя словы сціскаюць яго саслабелае сэрца і сёння, праз трыццаць пяць гадоў, перасыпанага, як у пясочным гадзінніку, беларускага часу?! Хто адваліць той цяжкі камень нашага спрадвечнага нацыянальнага выраку з яго спакутаванага і задыханага сэрца?

Нашчадкі і вучні.

Як большасць з нас, так і не напісаўшы сваёй самай галоўнай кніжкі, ён усёткі, не шкадуючы ні сябе, ні свайго часу, "выхаваў" сваіх вучняў — беларускіх пісьменнікаў і патрыётаў. І якіх! Тых, што пераўзышлі яго самога (а гэта і ёсць самая высокая адзнака настаўніцтва). Хіба дзеля гэтага нявартa жыць?! І хіба яны (вучні) не ёсць для яго самым вялікім гонарам і пашанотай? Вядома ж, ён ганарыцца імі — і Алесем Наварычам, і Юры Станкевічам, і Андрэем Федарэнкам, і...

І не можа таго быць, каб забылі яны помна-палымяныя словы з яго вядомага рамана, якія доўгія дваццаць гадоў не мог прабіцца да свайго чытача:

"Божа, як упалі ў нас у цане раней такія высокія паняцці гонару, чалавечай годнасці! Героем стаў ужо не той, хто не гнецца, а ломіцца, а той, хто не ломіцца, а гнецца! Усё стала з ног на галаву, а мо наадварот: з галавы на ногі?

Не, звычайнае несапсутае чалавечае пачуццё ўласнай годнасці з гэтым не можа змірыцца. Народны святы прынцып — чалавечая кроў ніколі не праходзіць дарам — застанецца ў сіле на векі вякоў!

І, можа, Драгун робіць вялікае глупства, што бярэ на сябе місію абараняць гэты прынцып, але калі гэтага не робіць ніхто другі, то павінен зрабіць хоць бы ён. Калі забілі сцяганосца праўды, ён знойдзе ў сабе сілу і смеласць, каб узняць сцяг!"

А калі — не, то няўжо ж вучні не працягнуць яму руку, каб, у рэшце рэшт, узняцца разам са сваім Настаўнікам-"сцяганосцам" на самую высокую і такую непакорную вяршыню беларускага нацыянальнага духу?..

Іначай — навошта ўсё...

Леанід ГАЛУБОВІЧ

## ПАЭЗІЯ

Таіса БОНДАР



# "ВЕК ПРАЖЫТЫ — І ВЕК РАСПАЧАТЫ..."

•

*Паляванне на душы... Сягоння яно
Не кастрамі ахвярнымі
шлях пазначае,
А даляравым смеццем ды чорным
вінам,
Настаяным на макавым зерні
адчаю.*

*Злыдні знаюць,
Куды падштурхоўвае страсць,
Дзе мяжа, за якой ні надзей,
Ні сумненняў:
Хто за грошы сябе
І ўвесь род свой прадасць,
Хто за ўцехі
Ў падманлівым свеце ўяўлення.*

*Не са злыдняў спытаецца.
Час пакрысе
Ацярэбіць сабранае векам-вар'ятам...
І каго ратаваць, як аслеплены ўсе?
І каго вінаваціць, як мы вінаваты?*

•

*Ззянне воблакаў — срэбра на сіні! —
Сон напомніў, а дзень аднавіў,
Абудзіўшы тугу па вышынях,
Прыадкрытых аднойчы любві.*

*О той міг азарэння, палёту,
Поўнай злітнасці з плынню Быцця,
Што ўзмывала ўрачыста-самотна
У асветлены Духам прасцяг!*

*Час распаўся, імгненні ўбіралі
Не прасцяг — пераліvы святла,
І раптоўна, на вогненнай хвалі,
Праявіўся адбітак крыла.*

*Перш крыла, потым Сокала! —
сэрца
Затрымцела ў чаканні стралы,
Я маліла — так моляць
аб смерці! —
Пагукаць, апаліць, акрыліць.*

*Бог быў побач... Страла даляцела,
І працяла наскрозь не мяне,
А праменна-зіхоткі, бясцелы
Цень крыла на празрыстай сцяне.*

*О той міг!..*

•

*Сышоўся зададзены круг
І ў прасторы думкі, і ў слове,
Не вынік пазначыўшы — рух
Да Бога, да Боскай Любові.*

*На шчасце, альбо на бяду,
Спадзейка — не ўдача, а спроба...
Я прагну любві. Я іду.
І значыцца: Бог ужо побач.*

•

*Бачу? Сніцца? Танцуе агонь.
Распускаецца дзіўная кветка —
Дыяментавы лотас Сусвету
Каля ног Уладыкі Ўсяго.*

*Вобраз бачны і ўяўна выразны,
Каб пазначыць выяву Святла
І не выпаліць позірк датла
Першым дотыкам
вогненнай плазмы.*

*Насамрэч жа ні позірк, ні ўсплёск
Гэтай плазмы
не маюць значэння:
Дух вытрымліваў сілу свячэння,
Пространь плавіла рух,
быццам воск.*

*Знітаваўшы ва ўздыху адзіным
Кветку лотаса й танец агню,
Акрыліўшы ім не цішыню,
А душу маю, сон яе дзіўны.*

•

*Куды ні глянь: то геній і жабрак,
То валадар становішча і злодзей.
І хоць бы знак, адзін адзюткі знак,
Што шлях не страчаны
і выйсце знойдзе!*

*Якое выйсце? Для каго? У чым?
Пытанні застаюцца без адказу,
У павуціне векавых прычын
Цьмянеюць і гінучы адразу.*

*Цяжэе ношка лёсу з веку ў век —
І не аддаць назад, і не аблегчыць,
І не данесці ўжо... О чалавек,
Ты мей усё,
ты мог азорыць вечнасць.*

*І выбраў здраду — Небу і сабе,
Забыўшы пра высокае сыноўства,
Пра дух свой,
што ў бязьдзеянні слабеў
І распадаўся, растварыўся
ў мностве...*

*У мностве рэчаў, з'яваў, слоў і спраў,
Заўсёды неабходна-непатрэбных.
Ты марна круг за кругам паўтараў.
Прыслухайся! Цябе гукае Неба.*

•

*Чорная пустка квадрата,
Рамка з прадзедаўскіх сноў...
Хочаш — выглядвай мутантаў,
Помесь шакалаў і соў.*

*Хочаш — крамяным па чорным
Пекла самое пішы
Там, у прасторы бяззорнай,
Не падуладнай душы.*

*Хочаш — свідруй аўтагенам
Дзіркі ў сцяне пустаты.
Потым хто выкаўтне: геній!
Хто падхіхікне: святы!*

*Словы — што слоўнае смецце:
Згаслае — не патушыць...
Толькі Гасподзь усміхнецца
Сумным анёлам душы.*

•

*Госпадзе, я знаю, знаю, знаю:
Хто й любіў мяне — адзіна Ты!
Што ж мне сніцца цішыня лясная?
Што ж я прагну нечай дабраты?*

*І лясы гараць паўсюль, і ў сэрцах
Толькі злосных думак мурашы...
Час застыў.
І шлях вось-вось сарвецца
Ў бездань Усясветнае Душы.*

*Не ўзгукаеш, не падставіш рукі:
Ён прыйшоў туды, куды вялі...
Госпадзе, калі й якія мукі
Зменяць воблік сцёмненай Зямлі?*

*Чаша напалову не дапіта,
Людзі ж сатанеюць у грахах,
Нішчаць свет,
Тваёй любві адкрыты,
Не зважаючы на боль і жах.*

*Боль і жах не апазнаны імі,
Час не нагадае пра віну...
Дык каго Тваім найсветлым Імем
Заклінаю бездань абмінуць?*

•

*Млечнага Шляху —
наеі ўзгарацца?*

*Войны, зладзействы,
крыжы, барышы...
Кары Гасподняй шляхі не баяцца!
Здэцца, адкуль ім, надзеям, узяцца?
А небывалы спакой на душы.*

*Смерці не ўгнацца за сонечным
ветрам,
Наканаваных вякоў не скасіць...
Белая Русь — гэта сэрца Русі,
Шчэ неспазнанай, няведамай свету.*

•

*Усё — навідавоку, на бягу:
Вяселлі, бойні, здрадніцтва, загулы...
Няўжо ніхто не чуе грозны гул
Вякоў, тысячагоддзяў прамінулых?*

*Цяжкая хваля іх усё расце,
Люструючы не нас, а нашы цені
У акружэнні спарахнелых сцен,
Здзічэлыя ў духоўным запусценні.*

*Які прагрэс? Куды нас завялі
Гардыня і распуста?
Скрозь — кладзішчы,
Скрозь — разбурэнні й смерць,
па ўсёй зямлі,
А розум спіць, і чорны вецер свішча.*

*Яшчэ павеў, яшчэ адзін праклён —
І змрок абернецца агульным жахам.
Няўжо ніхто не чуе гнеўны звон,
Што адпявае нас на згубным
шляху?*

•

*Мы — на зломе эпох. І — зламаны.
І старызнаю звыклай хлусні
Прыкрываем балючыя раны,
Занавешваем чорныя сны.*

*І не бачым — па слабасці зроку —
Ні падцёкаў адчаю ў душы,
Ні падцёкаў крыві на аблоках,
Што люструюць абломкі цішы.*

*Век пражыты — і век распачаты...
Два разломы — адзін над адным!
Хто калі памяне іх як страту,
Узгадаўшы жыццё маладым?*

*Мы не бачым — не хочам
убачыць! —
Як, паверыўшы ў боскасць жыцця,
І сябе, і яго перайначыць
Воляй сэрца — па волі Тварца.*

•

*Няўжо вызваленне?! Няма
Ніводнай сцяны ці цвярдыні,
Нібыта нарэшце сама
І служка сабе й гаспадыня.*

*Нібыта Гасподзь прыхінуў
Душу маю, зязблую птушку,
І больш не ўзгадаў пра віну,
Разгладзіўшы сцежку, як стужку.*

*І гэтая стужка жыцця
Заззяла над змрокам былога
Так ярка, што ўспыхнуў прасцяг,
Забыўшыся на асцярогу.*

*Успыхнуў — і рух абудзіў,
І крылы, зламаныя ў бойцы,
Як мне, так і небу наўздзіў,
Зямлю падымаюць да сонца.*

*Вышэй і вышэй! На святло!
Палёт на прамежкі не рвецца...
Што будзе, што ёсць, што было —
Высвечвае сонечны вецер.*

•

*Мая птушка-душа, ты са мной
І не чуеш мяне, майго плачу:
Незямной у прасторы зямной,
Што табе мае ўдачы-няўдачы?*

*І пахваляць мяне — ты змаўчыш,
І зняважаць — не станеш
аспрэчваць.
Хіба Сонца згасае ўначы?
Хіба рух запавольвае Вечнасць?*

*Гора — шчасце...
Нянавісць — любоў...
Што б урэшце ў жыцці
ні сустрэла,
Мне імкнуць, мне ляцець за табой
Да канца на крылах абгарэлых.*

# МАТЧЫН ЗАРОК

**_Неўзабаве ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыць свет новая кніга Таісы Супрановіч "Матчын зарок", куды ўвойдуць тры аповесці і апавяданні. Прапануем урывак з аповесці "Матчын зарок"._**



Следчы Хадкевіч Віктар Віктаравіч з самай раніцы быў па справах у пракуратуры. Калі паступіла паведамленне аб трагедыі, хуценька на сваёй машыне выехаў на месца здарэння. Карціна была жудасная: змятая ў аладку машына, яшчэ жывая, скрываўленая ласіха і забітае, побач з машынай, ласяня. Усе каля машыны стаялі знерухомеўшы, з яе днішча сабіралася ў лужыну і сцякала кроў. Канечне, усім было зразумела, што ў машыне ўсе нябожчыкі. А ласіха яшчэ жыла, спрабавала падняцца, гартанна раўла, сапла, але ўстаць на ногі не магла: яны былі паламаныя. Адзін з міліцыянераў дастаў з кабуры пісталет і двума стрэламі ў галаву навекі супакоіў жывёліну.

Наступіла цішыня — толькі стракаталі конікі ды ўскрыквалі ластаўкі. І тут, у гэтай цішыні, выразна пачуўся стогн — ніхто не паверыў, стогн паўтарыўся. Усе кінуліся рваць жалеза — голымі рукамі не надта што зробіш. Тут жа па рацыі звязаліся з горадам, выклікалі дапамогу. Дапамога прыехала хутка. Аўтагенам зрэзалі паматы і пакарабачаны дах машыны, але і мужчына-вадзіцель, і жанчына на пярэднім сядзенні былі нежывыя. Застылі ў недаўменні — хто ж стагнаў? Стогн паўтарыўся. І толькі тут заўважылі скручанага паміж заднім і пярэднім сядзеннямі некага трэцяга. Паднялі спляжаныя сядзенні з нябожчыкамі і асцярожна выцягнулі з-пад іх дзяўчыну. Яе сукенка на спіне была чырвоная ад крыві, у крыві былі і грудзі. А твар застаўся чысты і белы, дзяўчына была без прытомнасці. Па рацыі запыталі "хуткую", але, як на грэх, усе "хуткія" былі на выкліках. Хадкевіч стрымгалоў кінуўся да сваёй "Нівы", расклаў пярэдняе сядзенне, на яго асцярожна перанеслі дзяўчыну. Вёз ён Таню да горада, і слёзы навароваліся на вочы: з-за такога недарэчнага выпадку загінулі яе бацькі і, канечне ж, памрэ і іх дачка. Падумалася: як жа няроўна дае Бог — каму трэба жыць — забірае да сябе, каму жыццё не ў радасць — таму доўгі век дае.

Быў вось Хадкевіч у доме-інтэрнаце для састарэлых. Быў па доўгу службы: адна старэнькая бабка карміла з рукі галубоў, залішне перагнулася праз поручні балкона, не ўтрымалася і рухнула на зямлю з вышыні пятага паверха. Канечне, забілася насмерць, але трэба было правесці дасследаванне: ці проста няшчасны выпадак, ці суіцыд (папросту самазабойства). Хадкевіч пабыў там, паглядзеў. Які суіцыд, якое там самазабойства, ляжаць на тым пятым паверсе такія небаракі, такія нямоглыя, што здароваму, маладому аж страшна робіцца.

Заходзіць ён у пакой, дзе жыла нябожчыца. Тры ложкі. На адным абсалютна сляпая старая жанчына без адной нагі. На другім беспрытомная бабка (потым сказалі, што ў яе інсульт), нешта такое лапоча, сутаргава сціскае адною рукою край коўдры. У пакоі паветра цяжкае, у Хадкевіча падкаціла пад грудзі. Ды яшчэ заўважыў на ложку, на прасціне ў гэтай інсультнай бабкі як бы нейкі ланцужок. Прыгледзеўся і жахнуўся — гэта ж мурашкі роўненькім ланцужком праклалі сабе дарогу да ўжо амаль памерлага цела.

У палату хто як — хто на кульбе, хто на мыліцах — прысунуліся суседкі з другога пакоя. Ужо, мусіць, і не грэх, калі такія пакутнікі сабяруцца да Бога. Спытаў, можа, нябожчыца сумысля выпала, можа, скардзілася каму ці каму адкрылася, што жыць больш не хоча. Старыя на яго словы зазлавалі, засыкалі, прысаромілі, што ён, малады, бога гнявіць, тое кажучы. Чаго ж гэта ім спяшацца туды, калі яшчэ і не зусім старыя. Хіба восемдзесят — сталы век? Вунь, на другім паверсе інтэрната, жыве чалавек, яму сто два гады, а грыбоў па лесе знойдзе болей за якога маладога. Вось так...

Ехаў Хадкевіч, глядзеў на беспрытомную Таню, і сэрца аблівалася крывёю: на раскладзеным сядзенні яго машыны памірае маладая дзяўчына.

Хадкевіч памыляўся — Таня не памірала. У бальніцы яе абследавалі — цэлыя былі косці, ніякіх ран на целе не было. Кроў на спіне была крывёю яе бацькоў. Так Янушкевічы выканалі свой апошні доўг — закрылі сваімі целамі ад смерці самае дарагое, што ў іх было, — сваю адзіную дачку, адзінае сваё дзіця.

У Тані быў эмацыйны шок. Калі праз некалькі гадзін прыехаў Хадкевіч у бальніцу даведацца, што з дзяўчынаю, Таня ўжо апрытомнела. Ёй паставілі крапельніцу, Хадкевіча папрасілі, каб нічога не казаў ёй пра няшчасце. Ён паабяцаў, накінуў халат і зайшоў у палату. Таня сустрэла Хадкевіча вялікімі і перапалоханымі вачыма. Ён павітаўся і спытаў, як яе завуць. Ніякай рэакцыі. Дзяўчына нічога не чула. Прысеўшы каля ложка на табурэтку, узяў яе за свабодную ад крапельніцы руку. Руку не адняла, але вочы сталі яшчэ больш трывожнымі, неспакойна-спалохана замітусіліся зрэнкі. Спытаў, колькі ёй гадоў, — як і не чула. Пасядзеў яшчэ трохі і, аж для самога сябе нечакана, нагнуўся і пацалаваў дзявочую руку. Калі адыходзіў, у вачах, акрамя страху, убачыў ці адчуў яшчэ і здзіўленне. А можа, яму проста тое падалося.

Маці вечарам ішла на дзяжурства, сын папрасіў, каб паглядзела за Таццянай. Раніцай, вярнуўшыся з бальніцы, Вацлаваўна расказала, што ноччу дзяўчына вельмі плакала, крычала, білася ў істэрыцы. Давалі заспакаяльныя ўколы. Хадкевіч прыйшоў на працу — там было ўжо ўсё вядома: і што Янушкевічы з Астравецкага раёна, і дзе яны працавалі, і што дачка Таццяна заканчвала трэці курс каледжа. На гэты час ужо адтуль, з Астраўца, выехала машына па целы загінуўшых. Хадкевіч вырашыў ізноў наведаць дзяўчыну ў бальніцы. Падыходзячы да палаты, баяўся, што Таня будзе істэрычна плакаць, крычаць. Аднак — не. Таня была спакойная, толькі твар за ноч схуднеў, завастрыўся, вочы былі сухія, гарэлі агнём, болем, мукаю. Прыходу Хадкевіча не здзівілася, толькі спытала, хто ён. Віктар адказаў. Здаўленым, сеўшым голасам спытала, ці жывы хоць адзін з бацькоў. Хадкевіч, гледзячы ў гэтыя вочы, не мог хлусіць. Не адказаў, але ледзь-ледзь пахітаў галавою. Таня закусіла коўдру зубамі, і заплакала. Прайшло, можа, з паўгадзіны. Таня плакала, Віктар сядзеў, звесіўшы галаву. Раптам дзяўчына спытала, ці ёсць у Хадкевіча машына. Адказаў, што ёсць, і нават дзве. І тут яна папрасіла, нават узмалілася, каб Віктар забраў яе адсюль і звазіў на пахаванне бацькоў. Хадкевіч спалохаўся: як ёй адмовіць, што адказаць... А калі згодзіцца —ці вынесе дзяўчына бачыць у трунах абаіх бацькоў?.. Пайшоў раіцца з доктарам, той адказаў неяк невыразна, туманна, няпэўна — маўляў, сваё гора павінен гараваць кожны сам. Супакоіцца ёй дапаможа час ды і блізкія ёй людзі. А што ў Тані анікогачкі на гэтым белым свеце, Хадкевіч ужо ведаў. Зайшоў у палату і цвёрдым голасам сказаў, што павязе Таню з адной умовай — безагаворачна слухацца яго, Віктара, трымаць сябе ў руках, не адмаўляцца ад ежы. Таня згадзілася.

На пахаванні яна была адносна спакойная, не крычала, увесь час ціха плакала, толькі раз-пораз сціскала ў кулакі, аж бялелі пальцы, рукі. Усе клопаты па пахаванні настаўнікаў узяло на сябе РАНА. Памінкі ж рабілі ў школьнай сталоўцы. Вяртацца назад у гэты ж дзень Хадкевічу з Таняй не выпадала: трэба было разабрацца з гаспадаркай, галоўнае, з жыўнасцю. А ў Янушкевічаў у хляве верашчала, аж заходзілася свіння, кілаграмаў мо на сто пяцьдзесят, шпацыравалі па панадворку пяць курэй і певень. Гэтыя тры дні жыўнасць падкармлівалі суседзі, але, мусіць, не надта, свайго шкадуючы, бо і куры сабраліся ў купку ля ганка, і свіння ў хляве заходзілася віскам. Трэба было нешта вырашаць, а вырашаць не было каму. Таня, ачмураная горам. Сваякоў, нікога, такіх ужо блізкіх сяброў Янушкевічы не мелі. Ім было добра адно з адным, вялі сябе роўна-ветліва з усімі вяскоўцамі і настаўнікамі. Ды яшчэ Хадкевіч: ніхто не мог уцяміць, хто ён і як прыходзіцца Янушкевічам, ці Тані асабіста. Тані гора: і вёска, канечне, спачувала ёй, шкадавала загінуўшых, але ў той жа час вельмі многім карцела выведаць усё пра Хадкевіча. Колькі вясковых хлопцаў жадалі яе ўвагі, а тут вось прыязджае яна ў такую цяжкую гадзіну з такім прыгожым, годным чалавекам, відавочна старэйшым за яе, але яна вартая толькі такога, а не якога-небудзь блазнюка. Разышліся людзі пасля вячэры, Віктар і Таня пайшлі паціху да дому Янушкевічаў. Свіння, куры — што Тані да іх, нашто ёй яны, калі жыццё рухнула. Яна забілася ў кут канапы, закруцілася ў маміну пуховую хустку і сядзела, утаропіўшыся ў адну кропку. Віктар знайшоў спартыўны касцюм Тадэвуша Іванавіча, пераапрануўся, накарміў курэй, зварыў ежу свінні, замяшаў і вынес. Трэба было нешта паесці і самім. На памінках ні Віктар, ні Таня не дакрануліся ні да чаго. Зварыў бульбу, знайшоў у халадзільніку селядзец, заправіў яго цыбуляй і алеем, расскварыў сала і напёк яек. Пайшоў у машыну і дастаў з бардачка бутэльку гарэлкі. Паклікаў да стала Таццяну. Тая нехаця, павольна прыйшла. Віктар выпіў сам і прымусіў выпіць дзяўчыну і проста паесці. Ела павольна, бачна праз сілу. Сядзелі моўчкі, ніхто нічога не гаварыў. Раптам Таня, як абудзіўшыся, сказала:

— Пазваніце жонцы, сям'і, што давядзецца заначаваць. Прабачце мне, што прынесла вам столькі турбот. Ад усяго гэтага я ўжо страціла розум.

— У мяне няма жонкі. У мяне ёсць толькі сын, жыве з маімі бацькамі, як, дарэчы, і я.

— Памерла? — спалохана заміргала Таня. — Живая. Даже слишком живая, — па-руску сказаў Віктар.

Таня пасля гэтых слоў неяк сціснулася, зморшчылася, гатовая вось-вось заплакаць.

— Слишком живых не бывает, — таксама па-руску ціха сказала яна.

— Прабач, Таня, я не хацеў.

Віктар наліў чарку сабе, паўчаркі Тані. Выпілі. І Віктар аж сам з сябе пасля здзівіўся, наколькі адкрыта пачаў расказваць, Тані пра бацькоў, пра Лізу, пра Ваціка. Бачачы, што дзяўчына слухае, бывае, устаўляе нешта сваё, радаваўся, гаварыў і гаварыў, абы яна не станавілася ізноў да ўсяго абыякавай. За размовай і не заўважылі, што на дварэ была ўжо глыбокая ноч. Не распранаючыся, закруціўшыся ў пуховыя коўдры, прыдрамнулі тут жа ў Таніным пакоі — яна на ложку, ён каля акна на канапе. Раніцай Таня была такая ж маўклівая, з абыякавым да ўсяго позіркам. А Віктару не было часу расслабляцца: у яго быў адзін дзень (процьма спраў у пракуратуры), каб разабрацца з жыўнасцю. Паехалі ў райцэнтр, знайшлі людзей, якія гандлююць на базары мясам. Дамовіліся, што яны купяць свінню. Прыехалі назад у вёску, Віктар свінню закалоў, завёз разам з пакупнікамі ў краму, яе там узважылі і разлічыліся. А з курамі што рабіць? Прапанаваў суседзям. Таня сама папрасіла людзей, каб хто забраў, задарма, без грошай. Дзе там!.. Усе забабонлівыя, баяцца, каб з тымі курамі з сядзібы няшчасных бяда не перакінулася да іх. Тады Віктар палез на гарышча, знайшоў там скрынку з-пад тэлевізара, курэй палавіў, запіхнуў у скрынку і паставіў у машыну. "Завязём маёй маме, дзе дзесяці ёсць месца, там знойдзецца і шаснаццаці. Будзеш мець на месцы яйкі ад сваіх курэй", — патлумачыў Тані. Яна не супярэчыла. Навесілі ўсюды замкі і паехалі. Калі выязджалі з двара, дзяўчына ізноў заплакала. Супакоілася, як праехалі, можа, з палову шляху. Пад'язджаючы да горада, Віктар сумысля даў круг, каб аб'ехаць тое месца, дзе адбылася трагедыя.

Хадкевіч адвёз Таню ў інтэрнат, прыехаў дадому, памыўся ў ванне — маці сумысля, ведаючы, які замораны прыедзе сын, нагрэла тытан. Павячэраў, выпіў некалькі чарак гарэлкі, лёг у ложак і ўключыў тэлевізар. Глядзеў і не бачыў, што на экране. Перад вачыма пракручваліся падзеі апошніх дзён. "А я яе люблю", — раптам падумалася ўголас. Віктар аж сеў. "Я яе люблю", — свядома пацвердзіў ён. Віктар ізноў прылёг на падушку. "Божа, колькі было жанчын, дзяўчат за гэтыя гады, колькі дзеля яго гатовы былі хоць на край свету, а з яго боку моцнага пачуцця ні да каго не ўзнікала. Не ад таго, што любіў Лізу — якая любоў... Бывала, асабліва па першым часе, калі яна прыязджала, такая брала агіда, такая прыкрасць і злосць на сябе, маладога, з-за таго, што ап'янены блізкасцю з першай у жыцці жанчынай, зламаў сабе жыццё, прынёс столькі мукі бацькам, сыну, які саромеецца сказаць слова "мама". "Божа, Таня маладая, васемнаццаць гадоў, дзіця зусім супраць мяне — мне ж трыццаць адзін, а з-за кручанага жыцця, з-за складанай сваёй работы, бывае, здаецца, што ўсе пяцьдзесят", — думаў Віктар. Канечне, не знешне. Знешне ён быў мужчына прыгожы, спрытны, высокі. Хоць мінулую ноч спаў мала, але заснуць цяпер не мог. Віктар думаў, успамінаў мінулае, загадваў на будучыню і баяўся яе, гэтай будучыні. Назаўтра, напрыканцы заняткаў у каледжы, стаяў Віктар ля яго і шукаў вачыма мілую, невысокую постаць і хваляваўся, як юнак. Згледзеў Таню — ішла ўся ў цёмным, твар бледны, сумныя, спалоханыя вочы. Убачыла Віктара, усміхнулася, ажывіліся вочы. Ад шчасця бачыць яе ўсмешку, гэтую лёгкую праяву ўвагі да яго, у Віктара проста зашчымела ў грудзях.

— Сядай у машыну, паедзем, я нешта табе пакажу цікавае, — сказаў ён.

Моўчкі села. Ехалі мінут сорак спачатку па асфальце, затым па лясной, у калдобінах, дарозе. Нарэшце Віктар спыніў машыну. Пайшоў па лясной сцяжынцы, за ім Таня. Лес скончыўся, позірку адкрыўся небывалай прыгажосці краявід: перад імі рассцілалася гладзь даволі вялікага возера. Мурог берага ў гэты час ужо добра зазелянеў. Трохі воддаль густа раслі кусты чаромхі, яна была ў кіпені кветак: белая-белая. Але галоўнае, дзеля чаго прывёз сюды Віктар Таню, гэта лебедзі. На возеры іх было, можа, сто, можа, нават болей. Не звяртаючы ўвагі на людзей, яны грацыёзна плавалі, ныралі, падплывалі блізка да берага, даючы магчымасць людзям любавацца сабою.Тут толькі Віктар убачыў былую, да трагедыі, Таццяну. Дзяўчына ажывілася, прысела на кукішкі каля самай вады, знайшла ў сваёй сумачцы пячэнне, кідала лебедзю і, калі ён лавіў у вадзе кавалачкі, ціхенька смяялася. Віктар быў шчаслівы, задаволены, што здагадаўся, дадумаўся прывезці дзяўчыну на гэтае возера.

Пайшлі дні за днямі. Віктар сустракаўся з Таняй, вазіў яе па розных цікавых мясцінах, расказваў ён пра гісторыю свайго краю. Ён гэта ведаў. Яшчэ са школы цікавіўся і пры выпадку, бывае, нават казыраў сваімі паглыбленымі ведамі гісторыі родных мясцін. Аднойчы ў пятніцу, у Таццяны ўжо была сесія, Вацлаваўна запрасіла цераз сына яе на абед. Таня ўжо і да таго не раз бывала ў доме Хадкевічаў, была знаёма з усімі добрым знаёмствам, без акцэнту на нейкія асаблівыя адносіны яе і Віктара. Але схаваць свае пачуцці ні ён, ні яна не маглі — кожны, хто бачыў іх разам, разумеў, што Віктар не можа надыхацца і наглядзецца на дзяўчыну. Яна ж, яшчэ не зусім ачуняўшая ад гора, бачыла ў Віктары адзіную радасць і шчасце, што засталося ёй у жыцці. Таня так даражыла іх адносінамі, цаніла тое дабро, якое зыходзіла ад Віктара, што калі, бывала, ён затрымліваўся, спазняўся прыехаць да Тані ў дамоўлены час, аж месца сабе не знаходзіла, ажно ўся калацілася ў прадчуванні нядобрага. Канечне, гэта было пакуль унутры кожнага, яшчэ не было сказана адзін аднаму ні слова аб сваім каханні, але абое для сябе ўжо добра ўсвядомілі, што жыць адзін без аднаго не могуць.

**Таіса СУПРАНОВІЧ**

СІНЕМА

# НА ЛЮБЫ ГУСТ

***У кінатэатрах нашай рэспублікі, да радасці гледачоў, зараз ёсць што паглядзець на любы густ. Няхай не адразу, але лепшыя і найбольш яркія стужкі міжнароднага кінематографа ўсё ж трапляюць на нашы экраны.***



**"Міранда з лёдам" — праца кінамайстроў Вялікабрытаніі. Рэжысёр Марк Мандзен вядомы, як майстар інтрыгуючых кінадзеянняў. Яго чарговая карціна, як сам назваў, трылер ракавой страсці.**

**...Малады бібліятэкар Фрэнк закахаўся ў Міранду, дзяўчыну з тварам дзіцяці і павадкамі пажыральніцы мужчын. Пакуль ён спяшаецца да яе на спатканне, у яе цянёты трапляюць усе: і пасьпяховыя бізнесмены, і падпольныя дзялкі, і закаханыя юнакі... Аднойчы Міранда проста знікае. Фрэнк кідаецца на пошукі. І тут ён даведваецца, што ў Міранды... Дык што ў Міранды, вы даведаецеся, паглядзеўшы фільм.**

**У галоўных ролях Крысціна Рычы і Кайл Маклахан.**

**Раім звярнуць увагу і на амерыканскі мастацкі фільм "Пракляты шлях". Сцэнарый Дэвіда Селфа, пастаноўка Сэма Мендэса. У галоўных ролях Том Хэнкс, Пол Ньюмен і Джуд Лоу.**

**Гэта гісторыя сям'і Майкла Салівана, гангстэра з ірландскага клана, і сям'і Джона Руні — боса Салівана. Дзея адбываецца ў Чыкага, у час так званай вялікай дэпрэсіі 30-х гадоў.**

**Майкл Саліван — змрочны, таямнічы чалавек. У яго прыгожая жонка, два сыны і адзін з самых вялікіх дамоў у горадзе. Але ўсё гэта "аплачана" страхам, насіллем і крывёю. Калісьці, у маладосці, Джон Руні выратаваў яму жыццё і фактычна стаў яго бацькам. Але запатрабаваў за гэта працаваць на яго. Спачатку Майкл не задумваецца аб тым, які ён чалавек, Джон Руні, — добры ці дрэнны? І толькі страціўшы самае дарагое ў жыцці па віне названага бацькі, Майкл рашаецца на бунт супраць яго.**



**У нейкім сэнсе наватарскім можна назваць французскі фільм "Бланш" рэжысёра Берні Бонвуазена.**

**Жылі-былі кардыналы і мушкецёры, Мазарыні, каралева, сын, Людовік і іншыя ўжо вядомыя і невядомыя нам персанажы... Побач з імі, на прасторах дзяржавы праяўляла адвагу разбойніца Бланш, якая хацела адпомсціць кардыналу за гібель сваёй радавітай сям'і. Каб дзяўчыне не было адзінока, яна знайшла каханага, які на справе аказаўся двайным агентам. Захапіўшы дыліжанс Мазарыні, Бланш знаходзіць у ім груз наркотыкаў і шыфраванае пісьмо. Разбойніца і шпіён, які валодае шыфрам, разам цягнуць за ніткі кардынальскіх інтрыг...**

**У фільме здымаліся Лу Дуайан, Рошдзі Зем, Жозэ Гарсія, Жан Рашфор, Караль Буке, Жэрар Дэпардзье.**

*На здымках: кадры з фільмаў "Міранда з лёдам", "Пракляты шлях".*

**А. БОГДАН,**
**К. РАМАНОЎСКІ**

---

КАНЦЭРТЫ

***На сцэне сталічнага ДК ветэранаў адбыўся вялікі канцэрт гурта "Kriwi" з прэзентацыяй новага альбома "Minsk—Berlin". У зале не пуставала ніводнае месца. Білеты былі прададзены загадзя, таму атрымаць задавальненне ад творчасці ўлюбёнага гурта змаглі толькі самыя актыўныя аматары.***

# АД МІНСКА ДА БЕРЛІНА



«Добрым дзень усім сваім, усім чужым!»

**Зала сустрэла "Kriwi" бурнымі воплескамі і такім чынам падтрымлівала да канца канцэрта. На суд публікі музыкі прадставілі як свае старыя песні, так і не чутыя дагэтуль, якія ўвайшлі ў новы альбом.**

**Удзельнікі гурта кажуць, што іх супольнасць — гэта праект-эксперымент, своеасаблівая фабрыка зорак, таму што "Kriwi" заўсёды запрашаюць на свае імпрэзы маладыя гурты, як кажуць, выводзяць іх на "вялікую сцэну", даюць магчымасць праявіць сябе. Напрыклад, на прэзентацыі новага альбома побач выступілі таксама гурты "Дзеўкі", "Яр" і "Без білета".**

**Пасля канцэрта адбылася прэс-канферэнцыя, на якой салістка гурта Вераніка Круглова адказала на пытанні журналістаў.**

***— Вераніка, раскажыце, чым вы займаліся да з'яўлення "Kriwi"?***

— Пачынала я як рускамоўная спявачка. Шмат часу спявала піцерскі рок і джаз у гурце "Лінда". Песні для мяне пісаў Канстанцін Арбенін. У 1993 годзе паехала на "Славянскі базар", дзе атрымала прыз глядацкіх сімпатый. Там я пазнаёмілася з многімі зоркамі былога СССР: спявала з Марынай Капура, Надзея Бабкіна прызнавалася мне ў сімпатыі, а Яфім Шыфрын прапанаваў папрацаваць ў яго тэатры (канечне ж, гэта быў вялікі гонар для мяне, але я адмовілася). Потым пачала выступаць з гуртом "Палац". Мне было даволі цяжка перабудавацца: па-першае, спяваць фальклор, па-другое, на беларускай мове. Паступова тое, чым пачала займацца, мне падабалася ўсё болей і болей, і сёння я ўжо не ўяўляю сябе без гэтай музыкі.

***— Нагадайце, калі ласка, гісторыю "Kriwi".***

— Некалькі гадоў таму мне, Піту Паўлаву і Андрэю Сапоненку прапанавалі падрыхтаваць уласную праграму. Праз месяц яна была гатова, і мы адразу паехалі з ёй у Берлін, дзе выступалі на самых вялікіх пляцоўках. Гэта і былі першыя крокі гурта "Kriwi". Наконт назвы... Калісьці на

---

ГАСЦЁЎНЯ

***Адраджэнне старадаўніх музычных інструментаў — справа не толькі высакародная, але і надзвычай цікавая. Менавіта дзякуючы рэканструкцыям і копіям мы можам скласці нейкае ўяўленне пра тое, як гучала тагачасная музыка, калі пра гуказапіс яшчэ і не марылі. Безумоўна, нельга сцвярджаць, што рэканструяваныя інструменты не толькі выглядаюць, але і гучаць аналагічна сваім пра-пра-продкам. Сёння, як і стагоддзі таму, у майстроў ёсць поле для творчасці і імправізацыі.***

***Гітары работы народнага майстра Юрыя Дубнавіцкага добра вядомыя не толькі ў яго родным горадзе Пінску, пра іх ведаюць музыканты з самых розных гарадоў нашай краіны і з некаторых куткоў далёкага замежжа. Гучанне ягоных музычных інструментаў заўжды ўпрыгожвае фестываль "Рэнесанс гітары" ў Гомелі, а таксама падобны фестываль "Каралінская фіеста", што праходзіць у Пінску. Акрамя таго, ён упершыню на Беларусі рэканструяваў старадаўнюю лютню.***

***З Юрыем ДУБНАВІЦКІМ, гітарыстам, майстрам па вырабе музычных інструментаў, педагогам па класе гітары ў першай пінскай ДМШ, — наша размова.***

# «ГАРМОНІЯ СУСВЕТУ» З БЕЛАРУСКАЙ ПРАПІСКАЙ

— Пры канцы 80-х гадоў, — распавядае ён, — выканальніцтва на класічнай гітары перажывала сапраўдны рэнесанс. Шматлікія ўсесаюзныя фестывалі ў Палтаве, затым і ў Мінску... Звычайна туды прыязджала шмат гітарных майстроў. Калі набраўся іх энтузіязму, тым больш, што справа гэтая вельмі цікавая і незвычайная (няма літаратуры, усё перадаецца ў вуснай традыцыі), — мяне захапіла, і вось ужо больш як 12 гадоў я займаюся вырабам класічных гітар. А яшчэ заняўся вырабам старадаўніх шчыпковых інструментаў.

***— Думаю, многія чулі пра скрыпкі Страдывары, пра сакрэты, якія іх атачаюць... У чым сакрэт гітар Дубнавіцкага?***

— У гітарным свеце ёсць свае Страдывары. Напрыклад — іспанскі майстра 19-га стагоддзя Антоніё Торэс і ў 20-м стагоддзі ўжо чатыры пакаленні майстроў Рамірэс. На конкурсах вытворцаў класічных гітар доўгі час інструменты работы Рамірэса браліся за эталон гучання.

Складанасць вырабу класічнай гітары ў тым, што трэба спрычыніцца да такой навукі, як акустыка, мець уяўленне пра фізіку і механіку, спалучыць гэтыя веды ў кожным канкрэтным інструменце. У адрозненне ад скрыпкі, якая мае толькі адну спружыну на верхняй дэцы, колькасць спружын у гітары змяняецца з кожным годам. Гэта ўплывае нават не столькі на гучнасць, колькі на тэмбр інструмента, які мусіць спалучаць у сабе розныя гукавыя фарбы, іх адценні, абертоны. Можна сказаць, што сваю гітару я яшчэ не зрабіў, бо справа даволі складаная і 12 гадоў для гэтага замала.

***— А з чаго звычайна пачынаецца праца над новым інструментам? З выбару дрэва?***

— І тут шмат сваіх сакрэтаў. Мясцовыя гатункі драўніны не падыходзяць. Для элітнага класа інструментаў патрэбныя і элітныя пароды драўніны. Напрыклад, для вырабу корпуса — драўніна палісандра, якую прывозяць з Амерыкі: набываць яе даводзіцца ў Пецярбургу ці ў Маскве. Для верхняй дэкі патрэбна яліна — горная ці паўночная, бо беларуская елка непрыдатная. Могуць быць пароды чырвонага дрэва, абавязкова прысутнічае эбэнавае, чорнае дрэва. Потым гэтую драўніну трэба, прастукваючы, выстройваць пад вызначаны тон... Аднак у нашых умовах надта перабірацца не даводзіцца — такое дрэва вельмі каштоўнае і здабыць яго — само па сабе вялікая ўдача.

Калі не марнаваць час на іншыя справы, можна зрабіць гітару і за месяц. Аднак у мяне шмат часу забірае выкладанне ў музычнай школе. Што датычыць лютні, дык гэты інструмент не настолькі распаўсюджаны, як гітара, і тут мне даводзіцца ў працэсе стварэння інструмента шмат эксперыментаваць. Майстрам у нашыя дні вельмі складана працаваць індывідуальна. Цяпер у крамы, асабліва сталічныя, трапляе вялікая колькасць інструментаў сусветна вядомых фабрык з Іспаніі, Германіі, Японіі. Гэтыя інструменты вельмі добра зробленыя, выдатна аздобленыя. Але "канвеерная" вытворчасць з усімі "плюсамі" дае і свае "мінусы". Напрыклад, калі на прадпрыемстве работнік, узяўшы ў рукі нейкую дэталь, бачыць, што яна, пэўна, не зусім і добрая, усё ж гэтую дэталь можа выкарыстаць. Майстар жа так ніколі не зробіць. Або тыя ж спружыны. На фабрыцы іх размяшчаюць там і такім чынам, як гэта вызначана на ўзорнай мадэлі. Нейкае эксперыментаванне з кожным асобным інструментам тут не прымальнае. Майстар жа будзе па сто разоў пераклейваць гэтыя спружыны, пакуль не размесціць іх у самым лепшым, для кожнага канкрэтнага інструмента, месцы. З дапамогай спружынаў ствараецца тая палітра, калі гук можна характарызаваць, як "масляністы", "звонкі", "акварэльны" і г.д. У ідэале — гэта спалучэнне магутнасці і пяшчоты.

***— Лютня, якой вы пачалі займацца апошнім часам, для нашай краіны інструмент досыць экзатычны. Чаму зацікавіліся ёю?***

— Як гітарны выканаўца я пераграў багата розных музыкі, і ў тым ліку мне заўжды вельмі падабалася музыка старадаўняя. Аднак іграць яе на гітары — гэта прыкладна тое самае, што граць клавесінную музыку на фартэпіяна. Тыя старадаўнія пласты, якія "падымаюць" у сваіх канцэртных праграмах сучасныя гітарысты, спрадвеку выконваліся менавіта на лютні. Дарэчы, у выканальніцтве на гэтым інструменце ёсць шмат эфектаў, якія проста немагчымыя на сучаснай класічнай гітары.

Таму, па-першае, мая цікаўнасць да лютні была абумоўлена менавіта выканальніцкай практыкай. Па-другое, лютня і гітара — роднасныя інструменты. На працягу 17-га стагоддзя гітара выцесніла лютню, падвоеныя струны змяніліся адзінарнымі, іх колькасць паменшылася да шасці, нават былі ў тыя часы пяці-, чатырохструнныя гітары, таму зрабілася магчымым выкананне больш эфектных і віртуозных твораў. У той жа час для лютні больш характэрна музыка эстэтычная, гэта больш "філасофскі" інструмент. Як кажуць самі выканаўцы, гукі лютні скіраваныя перш за ўсё ў глыбіню самога музы-



тэрыторыі сучаснай Беларусі, як вядома, жыло племя крывічоў. Вось адкуль і наша назва. Яшчэ мы часта гаворым, што яна сімвалізуе маладую кроў, якая кіпіць у нашых жылах.

***— Хто ўваходзіць у цяперашні склад гурта?***

— Аснова засталася: Андрэй, Піт ды я, людзі, якія заснавалі гурт. З часам да нас далучыўся Карэн Карапецян, які адразу ж уліўся ў калектыў, і цяпер ніводнае наша выступленне не праходзіць без яго. Апошнім часам мы ўсё часцей працуем разам з іншымі гуртамі, ладзім сумесныя праекты. Робім гэта дзеля таго, каб даць нашым маладым гуртам дарогу ў жыццё. Бо яны — будучыня, нашы прадаўжальнікі.

***— Вашы планы на будучыню?***

— Рыхтуем новую праграму, якую праз некалькі месяцаў прадставім на ваш суд. Некалькі песень з яе прагучалі ўжо на гэтым канцэрце. Паралельна рыхтуецца новы кампактдыск. У лютым і сакавіку мы хочам паездзіць па маленькіх гарадах Беларусі, таму чакаем запрашэнняў. А ўжо летам рушым у гастрольны тур па Еўропе.

**Юлія ПАПОВА**

*НА ЗДЫМКУ: Вераніка КРУГЛОВА ды Піт ПАЎЛАЎ.*

канта, у яго душу, а не ў канцэртную залу, на слухачоў, як у гітары.

Цікавасць да адраджэння лютні ўзнікла яшчэ і таму, што ўжо некалькі стагоддзяў на Беларусі яна шырока не гучала, хаця вядома, што ў часы ВКЛ на беларускіх землях было багата лютністаў. Кажуць, існаваў такі анекдот: да прыкладу, калі музыкант жыве 80 гадоў, то 60 гадоў ён настройвае інструмент, а толькі апошнія 20 гадоў на ім іграе. У барочнай лютні, якую я цяпер асвойваю, адзінаццаць пар струн. Гэта разам каля дваццаці струн і добрая палова з іх — басовыя. Менавіта яны і надаюць гучанню лютні т.зв. "раяльнасць" — насычаны, нізкі, густы і вельмі прыгожы тэмбр. Гучанне высокага рэгістру больш сціслае, больш камернае ды інтымнае. Часта ў дачыненні да лютні кажуць: "гугнявы гук". Але я лічу гэтую ўласцівасць не адмоўнай, а якраз той, што надае лютні нейкую чароўнасць. Ды і канцэрты на такіх інструментах найчасцей адбываліся ў палацах, дзе лютністы гралі для двух-трох чалавек, тут гітарнай гучнасці не патрабавалася. Наогул, сучаснікі лютні лічылі яе нечым падобным да сімвала "гармоніі Сусвету". Таму і анёлаў звычайна малявалі менавіта з лютняй у руках, а не за клавесінам, напрыклад.

***— Вы кажаце, раней на лютнях гралі ў невялічкіх утульных залах магнацкіх палацаў. А ў нашыя дні?***

— На Беларусі толькі пачынаюць з'яўляцца першыя лютністы, і яны граюць на інструментах, што паспелі ўжо нарадзіцца ў маёй майстэрні. А паводле расповеду музыкантаў, якія прыязджаюць да нас з-за мяжы, тамтэйшых лютністаў звычайна запрашаюць менавіта ў палацы, для надання ім гукавой аўры, адпаведнай атмасферы сярэднявечных фэстаў. У нашыя часы лютністаў запрашаюць і на літаратурныя вечарыны. Аднак нават сёння для лютністаў прыдатныя залы не больш чым на 80—100 чалавек. Інакш давядзецца выкарыстоўваць электраўзмацняльную апаратуру, а гэта непазбежна выкліча скажэнне першароднага гуку.

Існуе цэлая сям'я лютневых інструментаў. Гэта і лютні рэнесансу, лютні барока, лютні басовыя (тэорба, кітарон)... Ёсць і такія цікавыя інструменты, як арфарыён, мандора. Цікава было б заняцца барочнымі ці ірландскімі арфамі, дзе музыканты абыходзяцца без педалі, таму інструменты невялікіх памераў і дастаткова лёгкія для пераноскі. Спіс можна было б працягнуць. Аднак усё давядзецца рабіць на ўзроўні хобі, загадзя ведаючы, што пакупнікоў мне тут не знайсці, а фінансы на стварэнне такой калекцыі здабыць мне практычна немагчыма.

**Віктар КІСЦЕНЬ**

**P.S. Будынак майстэрні, дзе Юрый Дубнавіцкі стварае свае унікальныя інструменты, у адпаведнасці з генеральным планам развіцця Пінска, ідзе "пад знос". І калі матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, высветлілася, што гэты "знос" можа адбыцца літаральна праз паўгода. Таму пытанне, ці атрымае лютневая "гармонія Сусвету" беларускую прапіску, — адкрытае.**

**В.К.**

**ФОТА АЎТАРА**

**ВАРУНКІ**

# ЖАРСЦІ Ў МАЛАДЗЁЖНЫМ

***Расійскі акцёр, рэжысёр, пісьменнік Леанід Філатаў у свой час добра вызначыў сутнасць акцёраў - "сучкіны дзеці". Гледачы, якія прыходзяць у тэатры, часам не здагадваюцца, якія жарсці, інтрыгі "разыгрываюцца" за кулісамі. Але дзякуючы прэсе некаторыя тэатральныя канфлікты робяцца даволі гучнымі.***

Прынамсі, з'явілася ўжо серыя публікацый пра той творчы канфлікт, які цяпер віруе ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры. Свае прэтэнзіі да галоўнага рэжысёра тэатра Віталя Катавіцкага, дырэктара Віктара Старавойтава публічна выказалі рэжысёр Віргінія Тарнаўскайтэ (дарэчы, былы дырэктар Маладзёжнага), харэограф і рэжысёр Марына Дударава, акцёры тэатра. Але, прачытаўшы артыкул пад назовам "ЧП тэатральнага маштаба. Трагіфарс у стылі самадзейнага тэатра", які быў надрукаваны ў "БДГ" 21 студзеня 2003 года, я палічыла несправядлівым, што ў прэсе агучваецца толькі адна думка, адзін погляд на творчы канфлікт, які нечакана ўзнік у тэатры.

Сёння "амаль уся трупа ўпэўнена, што Маладзёжны ператвараецца ў горшы ўзор правінцыйнага тэатра. І ў гэтым — заслуга кіраўніцтва тэатра ды ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама" (цытата з "БДГ"). Мяркуючы па артыкуле, акцёры Маладзёжнага незадаволены і цяперашнім дырэктарам В. Старавойтавым ("...у тэатры дакладна не ведаюць, адкуль ён з'явіўся. Здаецца з Ніжняга Тагіла. А па чыім загадзе?"), і новым рэжысёрам Ігарам Маловым ("найперш Старавойтаў узяў у якасці чарговага рэжысёра свайго сябра І. Малова (кажуць, што родам з расійскага Кургана, кажуць яшчэ, што без рэжысёрскай адукацыі)"), які ўладкаваўся на працу ў тэатр разам са сваёй жонкай, актрысай Святланай Гусаравай .Не задаволены і галоўным рэжысёрам В. Катавіцкім, з маўклівай згоды якога ўсё адбываецца. ("Падаецца цікавай пазіцыя Катавіцкага. Здавалася, ён павінен быў бы першым устрывожыцца наконт зніжэння мастацкага ўзроўню спектакляў. Але, напэўна, з-за страху згубіць сваё месца, ён заняў пазіцыю з усім пагаджацца".) Непакояцца артысты Маладзёжнага, што з тэатра сыходзяць таленавітыя акцёры (У. Іваноў, І. Чарапко), што тэрмінова ўводзіцца сістэма індывідуальных кантрактаў ("Мы не супраць кантрактнай сістэмы... Але мы не давяраем тым, хто будзе заключаць з намі гэтыя кантракты"), якая дапаможа пазбавіцца "няўгодных" людзей...

Сустрэча з В. Катавіцкім, які таксама мае права выказаць сваё меркаванне, распачалася з экскурсіі па тэатры. Галоўнаму рэжысёру было важна паказаць журналісту, якія цудоўныя змяненні адбыліся ў Маладзёжным з прыходам новага дырэктара В. Старавойтава. Тэатр, нарэшце, займеў невялікі хол, буфет, партрэтную галерэю акцёраў, рэпетыцыйную залу, якасную светлавую апаратуру... "Але прэтэнзіі ў артыкуле "БДГ" не да гэтага, — заўважыла я рэжысёру, — а да цяперашняга мастацкага ўзроўню спектакляў". В. Катавіцкі мусіў растлумачыць канфліктную сітуацыю са свайго боку.

Па-першае, па яго словах, В. Старавойтаў з'явіўся ў тэатры якраз па жаданні былога дырэктара В. Тарнаўскайтэ. Нягледзячы на тое, што на гэтай пасадзе яны хацелі бачыць Антаніну Міхальцову. Але дырэктарам Маладзёжнага стаў больш надзейны, як падавалася В. Тарнаўскайтэ, чалавек — В. Старавойтаў, супраць назначэння якога напачатку адкрыта выступаў В. Катавіцкі. На шчасце, Старавойтаў аказаўся чалавекам дзелавым, сапраўдным "мужыком", які змог узняць тэатр з гаспадарчага заняпаду, у які трапіў тэатр за апошнія шэсць гадоў. Старавойтаў не стаў "кішэнным" дырэктарам пры В. Тарнаўскайтэ, а здзейсніў каласальныя змяненні ў тэатры. "Як я магу цяпер не падтрымаць яго?" Сёння, на думку В. Катавіцкага, Старавойтаў патрабуе ад рэжысёраў, якія працуюць у тэатры, таго, што і павінен патрабаваць дырэктар: эканоміі сродкаў, канкрэтнага каштарысу, выканання плана выпуску спектакляў. "Мы ж — дзяржаўнае прадпрыемства, а не "прыватная лавачка", — разважае В. Катавіцкі. — З нас патрабуюць план, колькасць гледачоў, выязных спектакляў. На ўсё ёсць план і яго, на жаль, трэба выконваць. А сёння Маладзёжны выконвае ўсе планы..."

Усё, што напісана ў артыкуле "БДГ" пра І. Малова, В. Катавіцкі лічыць гнюснай хлуснёй. "Як я магу патрабаваць ад дырэктара звольніць рэжысёра І. Малова, калі апошняга выбралі самі акцёры тэатра?" Неяк пасля спектакля В. Старавойтаў сабраў акцёраў і запытаўся ў іх, ці хочуць яны ў тэатр новага рэжысёра. Акцёры пагадзіліся, і дырэктар, вынаходліва заручыўшыся меркаваннем акцёрскага калектыву, запрасіў у Маладзёжны рэжысёра І. Малова, які працаваў у Расіі. В. Катавіцкі быў катэгарычна супраць новага рэжысёра, пісаў лісты, хадзіў па ўсіх інстанцыях. Але яго не жадалі чуць ні чыноўнікі, ні акцёры. "Нарэшце, мне давялося сабраць у тэатры мастацкі савет па гэтым пытанні, — расказвае В. Катавіцкі. — Я заклікаў акцёраў зразумець, што мы не можам браць малавядомага нам рэжысёра ды яшчэ разам з жонкай — гэта ж будзе скандал у тэатры. Акцёры ж прынцыпова настойвалі: няхай рэжысёр працуе. Мае пратэсты, на жаль, засталіся толькі на паперы — у пратаколе сходу.

Калі артысты працавалі над "Пігмаліёнам" — першым спектаклем Малова, — былі ў захапленні ад рэжысёра, які не даймае іх, як Катавіцкі, а канкрэтна ставіць задачу. Незадавальненні пачаліся, калі новы рэжысёр і ў другі спектакль узяў сваю жонку. Вось не паставіў Малоў у "Позняе каханне" акцёра, які сыграў галоўную ролю ў "Пігмаліёне", ён стаў адразу дрэнным. Такая, на жаль, акцёрская прырода . Але я паўтараю зноў, акцёры яго запрасілі самі, навошта яны цяпер пратэстуюць! Спектаклі Малова не горшыя за некаторыя пастаноўкі В. Тарнаўскайтэ і лепшыя за спектаклі М. Дударавай".

В. Катавіцкі не лічыць, што мастацкі ўзровень цяперашніх спектакляў Маладзёжнага нізкі. "Зараз мы працуем у зусім іншай сістэме, — тлумачыць рэжысёр. — Цяпер тэатр абавязаны думаць пра заробак, бо пастановачных ніхто не дае! Мы павінны ставіць спектаклі за свае ўласныя сродкі. І калі мы, рэжысёры, будзем ставіць элітныя спектаклі, разлічаныя на 30 чалавек, то за што тэатр будзе выпускаць?! Пра гэта ніхто не думае, акрамя галоўнага рэжысёра і дырэктара! Дарэчы, і Упраўленне культуры горада, Мінгарвыканкам робяць усё магчымае, каб тэатры жылі. Хацелася б, каб больш падтрымліваліся кіраўнікі тэатраў, якія адказваюць за ўсё. Бо тыя, хто ні за што не адказвае і нічога не робіць, хлусяць на іх, разбураючы дысцыпліну. Калі б я быў іншым чалавекам, то сказаў бы: стоп, прабачце, у мяне ў інструкцыі запісана, што этапныя пастаноўкі робіць галоўны рэжысёр тэатра, так што, дарагія мае пастаноўшчыкі, я забіраю ўсе грошы на этапную пастаноўку, а вы купляйце для дэкарацыі чатыры штучных дрэвы ў краме і рабіце свой спектакль. Бо "Страсці ў Віндзоры" я ставіў на тыя мізэрныя рэшткі, якія засталіся пасля самага дарагога спектакля В. Тарнаўскайтэ "Трамвай "Жаданне". А ўсё таму, што я імкнуся стварыць для рэжысёраў такія ўмовы, каб ніхто не сказаў, што Катавіцкі ўсе грошы забірае на свае пастаноўкі".

Па словах В. Катавіцкага, акцёры сыходзяць з тэатра хутчэй па прычыне эканамічнай - нястача грошай, - чым нейкай ідэалагічнай (так здарылася з таленавітым маладым акцёрам І. Чарапко, у якога сям'я і дзіця, якіх трэба карміць, а малога акцёрскага заробку не хапае і эканамічную прычыну зыходу Чарапко ўсе ведаюць. Іваноў быў звольнены па творчых прычынах у сувязі са спыненнем працоўнага дагавору).

Канечне, па вялікім рахунку, канфліктная сітуацыя ў Маладзёжным тэатры — справа, так бы мовіць, інтымная, закулісная, якую павінны вырашыць ці то самі супрацоўнікі тэатра, ці то ўпраўленне культуры Мінгарвыканкама, ці то ў рэшце рэшт Міністэрства культуры.

Але праўда ў кожнага свая. Толькі б яна не замінала тэатру жыць, працаваць і здзяйсняць жывыя цікавыя пастаноўкі, якія будуць вымушаць журналістаў толькі з гэтай прычыны пісаць пра нейкія там "жарсці".

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКУ: Сцэна са спектакля "Дзядзька Ваня" (справа В. КАТАВІЦКІ ў ролі Астрава).*

**Фота А. ПРУПАСА**



(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Спякотна: інакш і не бывае ў канцэртнай зале ў такія вечары. Гучанне джазавай музыкі, абавязкова жывое і амаль заўжды гарачае (нават калі гэта не экстрэмальны, а ўмеркавана-стрыманы кірунак жанру), суправаджаецца жывой і гарачай рэакцыяй публікі.

Якая асалода для меламанаў — жывы гук! І — класнае натхнёнае гранне. Самазабыўныя спевы. Каліграфічнае выштукоўванне джазавай класікі. Свежасць і шчырасць інтанацыі твораў арыгінальных. Памайстэрску ды з густам упарадкаваная стыхія імправізацыі. Якая асалода...

Якая асалода — назіраць за ўсім тым, з чаго складаецца працэс творчасці! Вядома ж, можна слухаць, прымружыўшы вейкі. Але джаз — гэта відовішча: жывое, маляўнічае, непрадказальнае, нібы шчодрая прырода субтропікаў, дзе кожны дзеньззяе сонечнай пазалотай, а прыцемкі распаляюць фантазію вечаровымі таямніцамі...

Кажуць, каб разумець і любіць музыку, трэба навучыцца яе слухаць. А я скажу, што не зашкодзіць і навучыцца бачыць яе. Так, люблю наведвацца ў канцэртную залу, бо ні тэлетрансляцыя, ні найдасканалы запіс на CD не заменяць уражанняў ад жывога, спантаннага акустычнага гучання. Ды яшчэ я люблю глядзець музыку ў зале. Усялякую: і сімфанічную, і джазавую, і...

Big-Band пад кіраўніцтвам маэстра М. Фінберга ды іншыя своеадметныя калектывы, згуртаваныя пад крылом Дзяржаўнага канцэртнага аркестра. Трыо на чале з чарадзеем фартэпіяннай імправізацыі А. Эскіным; "Рэнесанс" пад кіраўніцтвам М. Лапцёнка — падарунак для аматараў старой добрай традыцыі, вечна маладога дзядулідыксіленда; "Green Stream" з лідэрам-басістам У. Бяловым; "Atava" з мультысаксафаністам А. Боевым. Рэдкасная зорачка беларускага джазавага вакалу з музычным прозвішчам Фарэдо; залатагалосы трубач В. Шчарыца; нібы народжаны для свінгу кантрабасіст В. Пыніцкаў; першы трамбон — Д. Бударын; віртуозы гітары С. Анцішын, А. Каліноўскі; эстэт перкусійных тэмбраў ды рытмаў А. Славінскі... Ці не ўсіх удзельнікаў беларускай джазавай праграмы ведаеш і ў адметным музычна-сцэнічным амплуа, і нават як аўтараў інструментальных кампазіцый.

Жывым і гарачым джазам парадавалі Мінск і госці фестывалю. Выдатны маскоўскі джазмен А. Крол (між іншым, з беларускімі каранямі: бацькі, родам з-пад Барысава, апынуліся ў Расіі падчас вайны) выступаў гэтым разам як піяніст. Граў ён у кампаніі трыо масквічоў "Мы з джаза"...

"Мы — з джаза!" Гэтак маглі б сказаць пра сябе ўсе, хто грае, спявае, слухае, спавядае жывую гарачую музыку. Усе, каго на мяжы студзеня ды лютага паяднаў мінскі джазавы фэст.

Гляньце на здымкі — яны загучаць. Яны поўняцца музыкай.

С. БЕРАСЦЕНЬ

*НА ЗДЫМКАХ: аблічча беларускага джаза варта бачыць.*










# ЖЫВЫ І ГАРАЧЫ ДЖАЗ, ЯКІ ТРЭБА ГЛЯДЗЕЦЬ!

Фота Кастуся ДРОБАВА



# «НЕ ЗАБІ Ў САБЕ ДОБРАЕ КАРЭННЕ!»

Жанрава-стылёвы аспект гумарыстычна-сатырычных апавяданняў Максіма Гарэцкага 1920-х гадоў

Гумарыстычна-сатырычная проза М. Гарэцкага, самабытная па жанрава-стылёвых прыкметах і па-філасофску глыбокая, застаецца прыярытэтным накірункам даследчыцкіх пошукаў у рэчышчы канцэптуальнага вывучэння творчай спадчыны пісьменніка.

Аналітычны характар мастацкага асваення рэчаіснасці паслужыў, відаць, перадумовай сінкрэтызму як базавай платформы аўтарскага стылю М. Гарэцкага. Нават у межах акрэсленай тэмы даследавання (гумарыстычна-сатырычная проза малых эпічных формаў 1920-х гадоў) заўважаецца маштабнасць стылёвых рашэнняў. Гэта, у прыватнасці:

— праявы аналітычнага рэалізму ("Памылка", "Апостал", "Незадача");

— кантрастнае спалучэнне звышэмацыянальнасці, негатыўнай душэўнай узрушанасці і філасофскай сузіральнасці ("Нявесткі сварацца");

— сінтэз рамантызму з прыпавесційнасцю і трагікамізмам ("Смачны заяц");

— сказавасць як дамінуючы прыём пры мастацкім узнаўленні аповеду ("Дурная галава");

— мемуарна-дакументальны характар апавядання ("Пабожны мешчанін");

— сумарнае аб'яднанне публіцыстычнасці з рэалізмам і моцным камізмам саркастычнага гучання ("Ашуканы палітрэдактар", "Прастуда містэра Рамзая").

Адносна жанравай арганізацыі твораў заўважым, што ў гэты перыяд у гумарыстычна-сатырычнай прозе Гарэцкага назіраецца перавага апавяданняў навелістычнай будовы, а творчыя эксперыменты прывялі пісьменніка да непаўторных здабыткаў у накірунку апавядальнай гісторыі, сказа і мастацкай публіцыстыкі ("Пабожны мешчанін", "Дурная галава", "Прастуда містэра Рамзая" адпаведна). Да камічнай плыні ў творчасці М. Гарэцкага мэтазгодна будзе аднесці і апавяданні "Смачны заяц", "Апостал". Адметнасцю камічнай прозы Максіма Гарэцкага з'яўляецца свядомае пашырэнне маштабу канфлікту ў апавяданнях. Творчы эмпірызм вёў празаіка ад раскрыцця інтравертнага (заглыбленa-асобаснага) супярэчання ў душы герояў ("Памылка", "Смачны заяц", "Сон") праз адлюстраванне ўнутрысямейнага, сваяцкага неразумення ("Нявесткі сварацца") да аналізу вонкавага, класавага сутыкнення ("Апостал") і да апісання знешнепалітычнай, міждзяржаўнай канфрантацыі ("Прастуда містэра Рамзая"). Пры гэтым, нягледзячы на фармальнае сугучча з агульнай тэндэнцыйнасцю ў выбары канфлікту (асабліва ў двух апошніх варыянтах), пісьменнік здолеў захваць нязменную аб'ектыўнасць і філасофска-духоўную напоўненасць вобразаў. На жаль, трэба канстатаваць, што ў пачатку 1930-х гадоў Максімам Іванавічам быў напісаны твор — навела-памфлет "Прастуда містэра Рамзая", у якім пад націскам дзяржаўнай літаратурнай палітыкі з'яўляюцца рысы стылёвай непрапарцыянальнасці, вымушанай арыентацыі на ідэалагічныя ўстаноўкі. Праілюструем на прыкладах жанрава-стылёвую адметнасць мастацкай спадчыны празаіка.

Гумарыстычная навела "Нявесткі сварацца" пабудавана, так бы мовіць, на бытавым матэрыяле, акалічнасці якога агаворваюцца самой назвай твора. Дынамізму фабулы спрыяе градацыйны рост эмацыянальнасці аповеду. Майстэрства пісьменніка дазволіла не толькі "пагасіць" негатыўнасць інвектыўных выпадаў персанажаў-антаганістаў, але і зрушыць адмоўны эмацыянальны фон апавядання ў сферу камічнага. Элементы народнай смехавой культуры (інвектыўнага характару праклёны, абразы, параўнанні) надаюць поліфанічнасць стылю гэтай навелы. Твор прываблівае і адметным кампазіцыйным прыёмам, які грунтуецца на кантрастным адборы эпізодаў. Так, у прыватнасці, экспрэсія кульмінацыйнай сцэны змяняецца ў фінале твора філасофскай элегіяй — пейзажнай замалёўкай. І гэта невыпадкова, бо ў навеле прырода падаецца як вобраз-антыпод адносна свету людзей, а ўсведамленне рэцыпіентам хараства і гармоніі ў ёй набліжае да асэнсавання светапогляднай пазіцыі аўтара і павышае ступень эстэтычнасці апавядання.

Прыпавесційнасць, экзістэнцыяльны аспект праблемы выбару ўласцівы маральна-бытавой навеле трагікамічнага характару "Смачны заяц". Твор датуецца 1921 годам, менавіта тады ў газеце "Беларускія ведамасці" пад назвай "Паншчына" ён упершыню пабачыў свет.

Апусканне ў лабірынты душы, цёмны пошук вечнага пачатку паміж двума полюсамі Быцця — Дабром і Злом — стала пафасам многіх твораў пісьменніка. У навэле "Смачны заяц" праблема спасціжэння ментальнай існасці чалавека ў гранічна абвостранай сітуацыі стала апірышчам для раскрыцця канцэптуальна-антрапалагічнага кола пытанняў па вызначэнні крытэрыяў маральнасці і сапраўднага гуманізму.

Рамантычны стыль твора характарызуецца дынамізмам, лапідарнасцю і максімальна скандэнсаваным эмацыянальна-пачуццёвым фонам аповеду. Дыспрапарцыянальнасць успрыняцця рэчаіснасці, звядзенне трагізму і камізму (праўда, з перавагай першага) у адзін "клубок" лагічна суадносяцца яшчэ з адным прыёмам, характэрным для рамантызму, — генералізацыяй як дамінуючым прынцыпам.

Творчыя эксперыменты з мастацкім часам прывялі да ўмацавання ідэйнага стрыжня твора: экспрэсія першых частак навелы цэнтрабежна ўзрастае паралельна з асноўнай інтрыгай, а пачынаючы ад кульмінацыі дзеяння і да фінальнай сцэны рух часу запавольваецца, месцамі нібы заміраe. Такім чынам рэалізуецца свядомая ўстаноўка апавядальніка на сутворчасць рэцыпіента ў аналізе матывацыі дзеянняў перасанажаў у трагікамічных абставінах. Сатырычна вырашаная асноўная калізія твора (прыгатаванне незвычайнай стравы) у адпаведнасці не толькі з законамі жыцця, але і з мастацкімі прынцыпамі трансфармуецца ў звышіранічны або звыштрагічны пафас апошняга эпізода, у якім даводзіцца думка аб немагчымасці бязбольнага рассякання гордзіева вузла, дзе перапляліся шчасце з няшчасцем.

Навацыяй стаў для Гарэцкага жанр сатырычнага сказа (твор "Дурная галава" 1922 г.), які зноў вяртае чытача ў далёкія часы. Але асноўнай мэтай гістарычнага экскурсу з'яўляецца пашырэнне даследавання праблемы крытэрыяў маральнасці, узнятай яшчэ ў папярэдніх творах.

Герой — апавядальнік селянін Трахім, асоба неардынарная. Але за змрочнай арыгінальнасцю ў яго хаваюцца непрыняцце традыцыйнага ладу жыцця, амаральнасць, дэструктыўны характар дзейнасці і жаданне паказаць сябе мужным воінам. Апошняя рыса патрабуе асобай расшыфроўкі. Цэнтральная падзея твора, звязаная з уціхамірваннем сялянскага паўстання, узнаўляецца суб'ектыўна — праз аповед героя, які меў на мэце зацікавіць суразмоўцаў, прыдбаць большую папулярнасць. Дзеля павышэння "забаўнасці" апавядальнік у працэсе маўлення ўносіць элемент эксцэнтрыкі: "Смяяўся ён, пакручваючы наўкола галавы сваёй булдавешкай"; "дзеля жарту з усяе сілы бэхаў... (ёю. — В. П.) па плоце". Такія дапаўненні прыўносяць у сказ матыў найгрышу як жанравую прыкмету і сегмент характарыстыкі персанажа.

Вобраз Трахіма унікальны і тыповы адначасова. Да таго ж пэўнае месца ў яго стварэнні, думаецца, мелі рэмінісцэнцыі, што бяруць вытокі яшчэ з усходнеславянскага фальклору (вобраз Анікі-воіна), або ён з'яўляецца нацыянальнай мадыфікацыяй гратэскна-сімвалічнага вобраза Асілка з аднайменнай казкі Салтыкова-Шчадрына.

У творчасці Гарэцкага заўважаецца своеасаблівае наследаванне класікам рускай літаратуры (М. Гогалю, М. Шчадрыну), але толькі ў плане засваення агульных мастацкіх прынцыпаў — у прыватнасці, у адборы відаў камізму. Так, напрыклад, беларускі празаік надае гратэскавасць асобным назвам сваіх твораў ("Дурная галава", "Дурны настаўнік", "Пабожны мешчанін"), а гэта было пашыранай з'явай у адзначаных вышэй пісьменнікаў: "Мёртвыя душы", "Нос" Гогаля; "Дзікі памешчык", "Арол-мецэнат", "Самаадданы заяц" Шчадрына.

Незвычайным момантам для ідэалагізаванай літаратуры 1920—1930-х гадоў стала канстатацыя народнага погляду на савецкую ўладу як на д'ябальскую, дэструктыўную, "чорную" сілу. У гэтым ракурсе становіцца больш зразумелай рэакцыя непрымання: "Вёска не праяўляла ніякіх знакаў жыцця. Яна, яе драўляныя, нізкія, пад саламянымі стрэхамі будынкі, таксама, як і поле, былі ціха-задуманыя ці нават бяздумныя, маўклівыя, шэрыя". Лёгка заўважыць, што апісанне вёскі пабудавана на мастацкім прыёме антрапамарфізму, а гэта робіць больш празрыстай ідэю непадзельнасці чалавека і яго малой радзімы.

Горкая іронія саркастычнага гучання як асноўны сродак падкрэслівання сатырычнасці вобразаў "паноў у чорным" значна змяншае маштабнасць, аўтарытэтнасць негатыву і пераводзіць яго ў плоскасць камізму. У 1920-я гады М. Гарэцкім быў напісаны міні-цыкл гумарыстычна-сатырычных навел ("Неразгаданыя людзі", "Сон", "Чыстка"), які пры жыцці празаіка так і не быў надрукаваны, хоць планавалася ўключыць яго ў зборнік "Люстра дзён" (1929). Праблемнае кола гэтай групы апавяданняў застаецца традыцыйна шырокім: загадкавасць прычын трансфармацыі асобы пад уплывам вонкавых абставін ("Неразгаданыя людзі"); крытыка п'янства як следства мізэрнасці чалавечых інтарэсаў ("Сон"); дэтэрмінізм класавага і агульначалавечага ва ўмовах савецкага грамадства ("Чыстка").

Пратаганістам у гумарыстычнай навеле "Неразгаданыя людзі" выступае Адам Скарына — чалавек па-за грамадствам і над грамадствам. Менавіта яму адводзіцца роля аналітыка-псіхолага, што эмпірычным шляхам даследуе філасофію быцця і нечаканыя ракурсы чалавечай натуры. Перад яго вачыма праходзіць галерэя вобразаў-тыпаў, якія фактычна прадстаўляюць усе пласты насельніцтва. Паступова бытавая сітуацыя набывае маштаб эксперыменту глабальнай значнасці. Гучыць папярэджанне чалавецтву са зменены цэнзам аксіялагічных крытэрыяў — думка аб тым, што людзі праходзяць па зямлі, "як сляпыя, не бачачы свету".

Мастацкай адметнасцю камічнай прозы Гарэцкага з'яўляецца варыянтнасць тэмы "апостальства" — "апостальства ў духоўна-рэлігійным плане". Так, у творах "Памылка" (1921) і "Пабожны мешчанін" (1928) сатырычна "падсвечаная" прага да святасці выдае натуры злачынцаў.

Безумоўна, самабытнай з'явай у літаратурным асяродку магла стаць навела-памфлет "Ашуканы палітрэдактар" (1929). Яна, па сведчанні крытыкаў, астаецца адным "з самых вострых, смелых і баявітых твораў той пары" (Дз. Бугаёў) і адначасова адным "з самых жартаўлівых" (Л. Корань). Такая высокая ацэнка правамерная і аб'ектыўная. Празаік, абапіраючыся на авантурны сюжэт, звязаны з прыгодамі паэта Трышкі Ласага, уздымае глыбінны пласт ідэйна-грамадскіх супярэчнасцей.Як бачым, гумарыстычна-сатырычная проза малых формаў М. Гарэцкага — з'ява адметная ў літаратурнай прасторы 1920-х гадоў. Філасофская глыбіня і надзённасць вызначаюць праблематыку яго творчасці. Разнастайнасць жанравых мадыфікацый і стылёвае эксперыментатарства дазваляюць вылучыць прозу Максіма Іванавіча ў шэрагу лепшых здабыткаў нацыянальнай літаратуры. І гэта не дзіўна, бо, як слушна зазначыў слынны даследчык творчасці Гарэцкага Дз. Бугаёў, "сам час... па-новаму высвечвае вялікасную ў ягоным падзвіжніцтве, трагедыйна-пакутніцкую ў самаадданым служэнні Бацькаўшчыне постаць пісьменніка...".

**Віталь ПАДСТАЎЛЕНКА**

*НА ЗДЫМКУ:*
*Гаўрыла, Парфір і Радзім ГАРЭЦКІЯ.*



**(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6—7)**

# ХРЫСЦІЯНСКАЯ ТРАДЫЦЫЯ

Так, у апавяданні "Уцекачы" з цыкла "Сібірскія абразкі" галоўны герой твора, падарожнік, дае залатоўку хлопчыку, які жабрацкім тонам просіць міласціну на адной са станцый Сібіры. Падарожнага-беларуса закранула менавіта беларуская гаворка малога жабрака, і ён вырашае паглядзець, як той жыве ў перыяд будаўніцтва "новага грамадства". Аднак у хатцы, куды завёў яго падлетак, падарожны сустракае нядобразычлівае стаўленне з боку аднаго з прысутных — салдата ў шынялі, які выглядаў у хатцы жаніхом ці зусім блізкім чалавекам адной з дзвюх кабет, якія таксама былі тут. Герой аповеду хутка пакідае гэтае месца. Аўтар падае нам далейшую карціну падзей: "Хлопчык застаўся коўкаць гарачую бульбу. Яго месца на рагу было цяпер пустое". І далей: "Як бы ва ўцеху мне, першы снег засцілаў белым чысценькім абрусам пустую мёрзлую вуліцу. Пасля таго чаду і парнасці было мне лёгка на паветры". Увесь эфект канцоўкі твора працуе на тое, што непрыкметны ўчынак нашага героя, менавіта неўмяшанне ў звыклы бытавы ход жыцця новых людзей, стварае вакол героя прыродны гарманічны настрой, скіраваны на ўдасканаленне, узвышэнне акружаючых героя людзей. І не падараваная залатоўка, як эфектны, прыкметны і нават важны ўчынак героя, адыгрывае вызначальную ролю прасветленасці агульнага настрою твора, а менавіта дзеянне "бяздзеяння", неўмяшання і ёсць той незаўважны, але вызначальны матыў для ўзвышэння жыццёвай матэрыі.

Адным з цэнтральных фактараў сюжэтнай кампазіцыі апавядальнага цыкла "Сібірскія абразкі", якія аўтар пачаў пісаць падчас свайго падарожжа ў Сібір у 1926 годзе, была тэма выгнання (у больш шырокім кантэксце яна гучыць як праблема ахвярнасці). Як вядома, беларускі народ у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя ва ўмовах страшэннай дыскрымінацыі, звязаных са стратай дзяржаўнасці, мовы, а таксама ў выніку Сталыпінскай і іншых рэформаў і падзей I сусветнай вайны апынуўся на мяжы поўнага знішчэння і знікнення. Ахвярнасць як сутнасная, вызначальная ідэя рэальнага нацыянальнага самасцвярджэння і цэментуе фабульную структуру апавяданняў. Сама назва з ключавым словам "абразкі" як бы праецыруе галерэю пакутніцкіх, боскай літасцю асветленых вобразаў людзей, якія па волі лёсу вымушаныя несці свой крыж выпрабаванняў. І тут М.Гарэцкі трымаецца хрысціянскага вучэння аб місіі Хрыста.

Аўтар як бы яшчэ раз заўважае, што калі людзі адмовяцца ад свайго ахвярнага прызначэння, адхіляцца ад паўтору ахвяры, якую прынёс Хрыстос, то рэальныя вобразы дасканалага свету застануцца толькі вобразамі, марамі мастака, які ўзвысіўся над прозай і трагедыяй жыцця. Лёс Ісуса — чалавека, а не Бога — гэта і ёсць, на думку пісьменніка, адлюстраванне глыбіннай сутнасці быцця. Шлях Ісуса — гэта адзіны спосаб пераўтварэння свету і найбольш хуткі шлях да асэнсавання нацыянальнага самавызначэння. Такой думкай прасякнуты ўсе замалёўкі і аповеды цыкла. Прыгадаем апавяданне "Чорны лебедзь", дзе пісьменнік стварае ёмісты і каларытны вобраз гаротнага беларуса Панаса Пушчы. Герой, воляй лёсу закінуты ў далёкі сібірскі край, вымушаны цярпець несправядлівасць з боку мясцовых жыхароў. Забіўшы і затанна прадаўшы габрэю чорнага лебедзя, на паляванне на якога ў мясцовых жахароў накладзена табу, Панас трагічна, на вачах сваёй сям'і, гіне ад рук раз'юшаных мясцовых чалдонак. Слухаючы расповед аб лёсе Панаса Пушчы, падарожны ўспамінае Панаса, з якім ён быў знаёмы раней. Асаблівую ўвагу ён акцэнтуе на апісанні вачэй беларуса-выгнанніка: "Глыбокія, добрыя вочы на худым цьмяным твары, блакітныя, як неба. У іх было вялікае разуменне жыцця, але пакорныя адносіны да ўсяго, што ні здарыцца". Вочы героя як сімвал душы беларуса, яго лёсавызначальнай місіі... Перафразуючы радкі з верша Б.Акуджавы "Я чувствую себя последним богом, единственным, умеющим прощать", трэба канстатаваць, што зямны шлях М.Гарэцкага адлюстраваў яго духоўную і мастацкую зададзенасць у пошуку боскага прызначэння чалавека.

**Іван ШАЛАДОНАЎ**

*У гэтым месяцы споўнілася дваццаць гадоў унікальнаму калектыву — дзіцячаму тэатру "Ронд -студыя". "Ронд" — гэта кола. Кола сяброў, кола спектакляў, кола шчырых чалавечых адносін. Тэатр, які ўсе гэтыя гады ўзначальвае Ірына Маркава, дае падлеткам магчымасць паспрабаваць сябе ў нялёгкай, але такой прывабнай прафесіі, як акцёрскае майстэрства. Для многіх з іх студыя становіцца стартавай пляцоўкай на шляху да прафесійнай сцэны. Так, між іншым, адбылося з удзельнікамі знакамітай музычнай групы "Бі-2", якія былі адными з першых выпускнікоў "Ронда".*

# ШКОЛА РАДАСЦІ

Часцей за ўсё студыйцы самі пішуць сцэнарыі да сваіх спектакляў, самі вынаходзяць для іх арыгінальныя рэжысёрскія вырашэнні, самі робяць дэкарацыі і касцюмы, і вядома, самі спяваюць і танцуюць. У рэпертуары "Ронда" пераважаюць пластычна-музычныя кампазіцыі і спектаклі. Іх мова атрымліваецца ў студыйцаў больш зразумелай за звыклы драматычны тэкст. Да таго ж такая форма спектакляў значна аблягчае паразуменне з замежнымі гледачамі. Падчас вандровак па Швецыі, Германіі, Швейцарыі, Галандыі дзеці знаёмяцца з побытам і ладам жыцця іншых краін, а таксама набіраюцца вопыту — не толькі акцёрскага, але і жыццёвага. Справа ў тым, што кіраўнік студыі Ірына Маркава — не толькі рэжысёр, але і вельмі добры выхаваўцель. Яна імкнецца давесці да сваіх вучняў, што лепш жыць аддаючы, чым думаць толькі пра сябе. "Ронд" — гэта духоўны тэатр, які вучыць дабрыні і ўзаемапавазе, вучыць знаходзіць вый-




сце з любых складаных жыццёвых сітуацый. Вялікая мара Ірыны Васільеўны — "Школа радасці" — сапраўдны дзіцячы тэатр са сваім памяшканнем, утульным домам, дзе самі дзеці былі б гаспадарамі. Але пакуль студыі даводзіцца туліцца ў цэнтры дзіцячай творчасці "Эўрыка" Фрунзенскага раёна, рыхтуючы свае спектаклі ў паўпадвальных ЖЭСаўскіх памяшканнях. На шчасце, ёсць людзі і ўстановы, якія па магчымасці тэатр падтрымліваюць: Міністэрства культуры аказвае падтрымку пры арганізацыі фестываляў дзіцячых тэатраў "Крок у неба", куды з'язджаюцца калектывы з Беларусі, Расіі і Прыбалтыкі, а кіраўніцтва сталічнага ТЮГа прапаноўвае сваю сцэну для рэпетыцый. Нягледзячы на сваё незаможнае існаванне, студыя імкнецца сама праводзіць дабрачынныя акцыі. Так, з 1999 года "Ронд" рэгулярна выязджае ў беларускую глыбінку, дзе прапаноўвае вясковай дзятве свае спектаклі.

Святочная вечарына, прысвечаная 20-годдзю тэатра, прайшла на гасціннай ТЮГаўскай сцэне. Студыйцы паказалі ўрыўкі са спектакляў розных гадоў, такіх, як "Свята зямлі", "Вер мне", "Папялушка", а таксама з прэм'ернага спектакля "Я — зорка, ці Калі ідзе дождж". Тут выступалі не толькі старэйшыя падлеткі, але і зусім юныя "рондаўцы" з малодшай групы, якую вядзе педагог Марына Забродская. Павіншаваць сяброў прыйшлі артысты дзіцячай студыі "Вясёлы балаганчык" з Мар'інай Горкі і група эстраднага танца "Менада", якую стварыла дачка Ірыны Маркавай Алена Максіменкава. Свята атрымалася сапраўдным — без афіцыёзу, затое з каляровымі шарамі і феерверкам.

Юлія ПАЛАЧАНІНА



# ЗІМОВЫ ДЗЕНЬ У НАВАГРАДКУ

ФОТАРЭПАРТАЖ

***За два кіламетры да Навагрудка я пасунуўся бліжэй да ўваходу. Здавалася, нібы гэтак прыспешваю сустрэчу з любімым горадам.***

***Аўтобус перакочваўся з горкі на горку, я ўглядаўся ў вакно. Наваградак нагадваў грыб. Зімовы грыб. Белы грыб.***

***Адчуванне хуткай сустрэчы радавала, было лёгка і прыемна. І не зачапілі нават словы злоснага аўтобусніка:***

***— Прыдумаў жа нехта пабудаваць тут горад. Можна і не падняцца на гару.***

***— Затое — прыгожа, — уздыхнула чамусьці жанчына сярэдняга веку.***

***Вадзіцель працягваў бурчэць пра слізкія зімовыя дарогі, а я стараўся запомніць унутранае пачуццё радасці. Ціхая радасць вымагае спакою, а я ехаў у камандзіроўку — працаваць. Мэту для сябе абазначыў рамкамі сучаснага дня Наваградка. Гэта для мяне ён — сталіца, цэнтр свету; а для большасці — звычайны раённы беларускі горад.***

## НАВАГРАДАК — НЕ ГОРАД КАНТРАСТАЎ

Той, хто даўно не быў у Наваградку, не пазнае цэнтральны пляц. Ён цяпер — толькі для пешаходаў. Нават помнік Леніну прыбралі. А некалі класічным узмахам рукі Ільіч паказваў (куды б вы думалі?) на вінагарэлачны магазін. Нібы сапраўды сцвярджаў: правільнай дарогай шыбуеце, таварышы. Пляц змяніў свой воблік напярэдадні 200-ых угодкаў з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Праўда, асноўныя работы праходзілі ў цэнтры. Варта было адысці ўбок, як у вочы кідаліся і дрэнныя дарогі, і старыя хаты. Грошай не хапіла.

Праблемы Наваградка і ваколіц мала чым розняцца ад іншых мясцін Беларусі. Асабліва што тычыцца вёскі. Прамысловыя прадпрыемствы збольшага працуюць стабільна. Найперш, завод газавай апаратуры і швейная фабрыка.

Старшыня райвыканкама Анатоль Ліс распавёў, што будуецца і жыллё: сёлета ўзводзіцца 12 тысяч квадратных метраў у горадзе і пяць тысяч на вёсцы.

— Напэўна будучыню Наваградка звязваеце з турызмам?

— Так, гісторыя Наваградка спрыяе гэтаму накірунку. Але неабходна ствараць інфраструктуру. Патрэбны сучасныя гатэлі, стаянкі для транспарту, лепшая сфера абслугоўвання.

Патрэбны інвестыцыі. Анатоль Ліс разумее, што ў тым ліку і замежныя. Найперш, відаць, польскія.



Не дзіва: Адам Міцкевіч для палякаў — святыня. Рэстаўрацыя музея ў канцы 1980-х не адбылася б без іх дапамогі.

Увогуле ж Наваградак — не горад кантрастаў. Жыццё месцічаў не моцна розніцца, ды й руплівыя наваградцы стараюцца дадатковую капейку замежнымі паездкамі зарабіць.

## МУЗЕЙШЧЫК

Кабінет Міколы Гайбы знаходзіцца на другім паверсе музея Адама Міцкевіча. Утульнае падстрэшша. Гісторык Гайба тут дырэктарам. Ён распавядае пра наведвальнікаў, якіх тут летась было больш за 20 тысяч; пра новую мастацкую экспазіцыю; пра прыезд у траўні праправунука вялікага паэта, Рамана Гарэцкага-Міцкевіча, які жыве ў Францыі.

Найбольш уражваюць паводзіны палякаў.

— Бывае, заходзяць у будынак — і адразу ўкленчваюць. А калі дазваляем іграць на музейным раялі, вельмі радуюцца.

Былі тут летась і раскіданыя па свеце нашчадкі Ігната Дамейкі.

Мікола не нарадуецца на камп'ютэр, які падаравала Міністэрства культуры. Яго любімы занятак — Інтэрнэт. Заўважыў: не адарваць дырэктара ад гэтай забаўкі. Вывеў на прынтэры старонку з показкамі пра вялікага Адама.

Адну з іх прачытаў.

Аднойчы на балі ў Пецярбургу сасланы Міцкевіч прагульваўся з паннаю. Насустрач шыбуе Пушкін са словамі:

— Адыдзі ўбок, двойка. Туз ідзе.

А Міцкевіч у адказ:

— Казырная двойка і туза б'е.

Я ўсміхаюся:

— Мікола, гэту показку мне яшчэ дзядак распавядаў, і я яе прыводзіў у адным са сваіх газетных артыкулаў.

Прыгадалася, як некалі пачуў ад знаёмай наваградчанкі, што па музеі блукаюць прывіды: "Бывае, дзверы грукаюць. Праверашь, а яны зачыненыя. Альбо збяруцца работніцы музея гарбаты папіць, а за спінаю шум, нібыта аб падлогу самавар грукнуўся."

Мікола кажа, што сам сведкам не быў, але ад калег пра незвычайныя здарэнні чуў.

## ЦІ СТАНЕ НАВАГРАДАК ГОРАДАМ-АТРАКЦЫЁНАМ?

Выйшаўшы з аднаго музея, прайшоўшы рэстаўраваны пляц, трапляеш у музей краязнаўчы, дзе гаспадыняю прывабная Тамара Вяршыцкая. Што ні кажыце, а прыемна гаварыць пра даўніну з прыгожай жанчынай, якая побач, а не блукае зданню дзесь па замку.

Дырэктар краязнаўчага музея мае мару. Пра гэта і распавяду. Мінулым летам ёй пашэнціла трапіць у Францыю, у горад Пью дэ Фу правінцыі Вандэя. Стала ўдзельніцай карнавалу, куды з'язджаецца ўся Францыя; а паколькі яна чалавек лёгкі на ідэі, вырашыла нешта падобнае арганізаваць у Беларусі.

Тамара Вяршыцкая хоча з Наваградка зрабіць горад-атракцыён.

Перакажу асноўныя моманты ейнага праекта і адразу хацеў бы засяродзіць увагу творцаў.

Патрэбен вершаваны сцэнар, які б на прыкладзе адной сям'і распавёў пра гістарычны лёс Наваградка. Спектакль можа праходзіць на цэнтральным пляцы — месца дастаткова, удзельнічаюць не прафесійныя артысты, а шараговыя наваградцы.



— Патрэбен тэкст, які б на сэрца клаўся, — кажа Тамара Вяршыцкая і запрашае ўсіх, хто хацеў бы прыняць удзел у праекце, звяртацца ў музей.

Само свята праходзіць адзін дзень. Можна на замчышчы збудаваць амфітэатр, дзе будуць ладзіцца рыцарскія турніры. А досвед ёсць — штогод такія імпрэзы ў Наваградку адбываюцца. Стварыць тыповую шляхецкую сядзібу, дзе гандляваць народнымі вырабамі. Майстры ж могуць прыехаць з усёй Беларусі. Недалёка ад цэнтра горада — парк, дзе таксама не складана арганізаваць забавы: і з арбалетаў пастраляць, і на ладдзі пакатацца па рачулцы. А хто хоча — і на конях.

Тамара Вяршыцкая распавядае апантана. І сапраўды, Наваградак — удалае месца для такога свята. І выдаткаў шмат не будзе, і акупіцца праект з часам можа. Праўда, толькі рамантызму і жадання мала. Тут якраз павінен прысутнічаць здаровы, камерцыйны прагматызм. Адным словам, тэма для абмеркавання ёсць.



## ЧАС ПІСЬМЕННІКА

Расказалі мне сумную гісторыю пра смерць члена Саюза беларускіх пісьменнікаў паэта

